# Беларус

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 338 Год выд. XXXVI — Жнівень 1987 г.


## ДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

Прэзыдэнт Рэйган з даручэньня й на просьбу Кангрэсу ЗША падпісаў 3I ліпеня сёлета праклямацыю, якою абвесьціў дзень I-га жнівеня Гэльсінскім Днём правоў Чалавека. У рэзалюцыі сказана, што незважаючы на пэўнае палепшаньне стану людзкіх правоў у краёх Усходняй Эўропы, урады Савецкага Саюзу й дамінаваных ім краёў гвалтуюць далей прынцыпы Заключнага Акту, падпісанага ў Гэльсінках.

Абмен інфармацыяй паміж Захадам і Ўсходам усё яшчэ абмежаны, кажацца ў рэзалюцыі, грамадзянскія свабоды сыстэматычна здушваюцца, вязьні сумленьня пакутуюць у канцлягерох. У прэзыдэнцкай праклямацыі названы найбольш жорсткі гэткі савецкі лягер — лягер № 36-1 у Пермі. У гэтым лягеры, як ведама, сядзіць гадамі ўжо й беларускі вязень сумленьня Міхал Кукабака. За апошнія тры гады, сказана ў праклямацыі, у лягеры 36-1 памерла дзесяць палітычных вязьняў.

Галоўнаю мэтаю палітыкі Злучаных Штатаў і саюзьнікаў НАТО, сказана ў праклямацыі, — дамагчыся, каб краі савецкага блёку выконвалі падпісаны імі Заключны Акт Гэльсінскага пагадненьня, г. зн. забясьпечылі людзям асноўныя правы й свабоды чалавека.

## ЛІСТ 134-Х ДА М. ГАРБАЧОВА

**Генэральнаму сакратару ЦК КПСС**
**члену Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР**
**таварышу Гарбачову М. С.**

**У рэдакцыю газэты «Правда»**

**Копія — наказ дэпутатам —**
**Старшыні Вярхоўнага Савету БССР Навуменку І.**
**Старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Таразевічу Г. С.**

Паважаны Міхаіл Сяргеевіч!

15 сьнежня 1986 году ў лісьце на Ваша імя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі паведамілі аб крытычным стане, у якім апынулася беларуская мова і ў цэлым разьвіцьцё беларускай нацыянальнай культуры. Выкладзеная думка пра канечнасьць станаўкіх дзеяньняў «у справе ўратаваньня роднае мовы, роднай культуры, а, гэта значыць, беларускага народу ад духовага выміраньня». Выказаныя таксама прапановы, як перамагчы паўсталае палажэньне, якія мелі дзелавы, канструктыўны характар і адпавядалі духу ленінскай нацыянальнай палітыкі. Крыху раней за восень леташняга году ў рэспубліканскай прэсе ўпяршыню за дзесяцігодзьдзі маўчаньня пачалося абмеркаваньне бядотнага палажэньня зь беларускай мовай. У гэтым пытаньні толькі ў рэдакцыю рэспубліканскай газэты «Літаратура і Мастацтва» прыйшлі сотні лістоў, дзе выказаная трывога за долю роднае мовы ды запрапанаваныя канкрэтныя шляхі пераможаньня крызысу. Якія-ж высновы зрабілі з усяго гэтага кіраўнікі рэспубліканскай партыйнай арганізацыі?

Напрыканцы сакавіка сёлета адбыўся Пленум ЦК Кампартыі рэспублікі, на якім мы спадзяваліся пачуць устрывожаную думку аб палажэньні, што склалася. З дакладам на Пленуме выступіў першы сакратар ЦК КПБ т. Я. Я. Сакалоў, які запраўды закрануў пытаньне аб нацыянальнай мове й культуры. Спачатку дакладчык адзначыў, што гэтая сфэра «ані ня простая і не беспраблемная». Але далей ягонае выступленьне ў гэтай частцы ў існасьці справы зьвялося да таго, што ніякіх праблемаў няма. А каб гэта прагучэла больш пераканальна, дакладчык падаў довады, мякка кажучы, вельмі сумлеўнай якасьці.

Гэтак, у якасьці аргумэнту, прызначанага відавочна выпраўдаць праводжаную ў рэспубліцы палітыку ў моўным пытаньні, паведамлена, што «паводля даных Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1979 году, амаль 80 працэнтаў жыхароў рэспублікі назвалі расейскую мову сваёй роднай або другой роднай мовай». На самой рэчы ў Беларускай ССР расейскую мову прызналі за родную адно 28,2 працэнта ўсіх жыхароў і каля 16,5 працэнта жыхароў беларускай нацыянальнасьці. А 83,3 працэнта Беларусаў назвалі сваёй роднай мовай беларускую мову.*

У перапісе жыхарства 1979 году, як і ў папярэдніх усесаюзных перапісах, гэткай графы, як «другая родная мова», наагул ня было. Была графа «уважаючы за родную мову мову іншай нацыянальнасьці» і графа «свабодна

* Численность и состав населения СССР. По данным Всесоюзной переписи населения в СССР 1979 года. Москва, «Финансы и статистика», 1985, с. 108-109. Некаторыя працэнтныя падлікі адлюстраваныя таксама ў спэцыяльнай літаратуры (гл. Касперович Г. Н., Миграция населения в городе и этнические процессы (на материалах исследования городского населения БССР). Минск, «Наука и техника», 1985, с. 109).

(Працяг на 4-й б.)

## СЬЛЯДЫ НІШЧЭНЬНЯ

**(Стан помнікаў беларускай архітэктуры)**

Маскоўскае выдавецтва «Искусство» выдала летась, у сэрыі «Помнікі мастацтва Савецкага Саюзу», кнігу — «Белоруссия. Литва. Латвия. Эстония — Справочник-путеводитель». Кніга (483 б.б.) прысьвечаная найважнейшым помнікам архітэктуры, скульптуры ды іншых відаў манумэнтальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларусі і прыбалтыцкіх краінаў. Кніжка складаецца з трох частак: нарысы аб разьвіцьці архітэктуры ў кожнай рэспубліцы ад найдаўнейшых часоў да нашых дзён, багаты ілюстрацыйны матар'ял ды інфармацыя гістарычнага й мастацкага характару да кожнай ілюстрацыі; у канцы кнігі зьмешчаныя храналягічны пералік помнікаў і карты разьмяшчэньня помнікаў на тэрыторыі кожнае рэспублікі ды кароткая бібліяграфія.



*Гродна. Касьцёл манастыра брыгідак (1634-1642) з прымітыўна прабітымі варотамі й павыбіванымі вокнамі.*



*Гродна. Царква Раства Багародзіцы (1720-1751) з павыбіванымі вокнамі ды паздыманымі крыжамі.*

Беларускі разьдзел гэтага даведніка-праваднік апрацаваў В.А. Чантурыя, прафэсар архітэктуры Беларускага Палітэхнічнага Інстытуту, аўтар многіх працаў зь гісторыі архітэктуры Беларусі. Чантурыя даў да свайго нарысу 84 ілюстрацыі зруйнаваных замкаў, будынкаў каталіцкіх і праваслаўных сьвятыняў, палацаў ды колькіх помнікаў савецкага будаўніцтва (Дом Ураду ў Менску, мэмарыяльны комплекс Хатынь ды інш.).

Асобна дадзена апісаньне ілюстраваных у кнізе помнікаў.

Навет з павярхоўнага агляду фатаграфічнага матар'ялу даведніка можна сьцьвердзіць, што помнікі архітэктуры найлепш захаваліся ў Эстоніі й Латвіі, горш у Літве, а найгорш на Беларусі. Праўда, катэдральныя саборы Рыгі й Вільні пераробленыя на музэі, але ўсё-ж будынкі захаваныя ў добрым стане.

У Менску-ж праваслаўны сабор сьвятых Пятра й Паўла быў падарваны дынамітам яшчэ ў 1937 годзе, а каталіцкі катэдральны касьцёл Дзевы Марыі, які яшчэ ў часе Другой сусьветнай вайны й нямецкай акупацыі выконваў функцыю сьвятыні, цяпер пераробленый ў спартовы клюб («Спартак»), ягоныя прыгожыя барокавыя вежы зруйнаваныя, перад франтонам пабудаваны трысьценак у стылі савецкага клясыцызму. Будынак, як помнік архітэктуры, перастаў існаваць, таксама як перасталі існаваць іншыя зьнішчаныя па Другой сусьветнай вайне сьвятыні Менску (Дамініканскі касьцёл, Прэабражэнская й Чыгуначная царквы, мячэць менскіх Татараў і старасьвецкія сынагогі).

Праф. Чантурыя ня раз крывіць душой, ілжэ ў вочы, апісваючы архітэктурныя помнікі Беларусі. Вось для прыкладу: праваслаўны сабор сьв. Пятра й Паўла ў Гомелі, помнік клясыцызму пачатку XIX ст., даўно пераробленый ў плянэтарый, купал у саборы зрэзаны, пра што пісалася ўжо ў «Беларусе» (зь ілюстрацыяй). Тымчасам у даведніку зьмешчаная фатаграфія будынку з крыжам на версе купалу — відаць, яшчэ з часоў перад Першай сусьветнай вайны. А ў апісаньні — ані слова аб цяперашняй функцыі былога сабору. Выглядае з апісаньня й фатаграфіі, што ён і цяпер — дзеючая сьвятыня.

У Гомелі яшчэ на адзін помнік трэба зьвярнуць увагу — палац Паськевіча. Палац належыць да найпрыгажэйшых помнікаў цывільнага будаўніцтва на Беларусі. Цяпер у ім — палац піянераў і, мяркуючы паводля здымку ў даведніку, знаходзіцца ў несамавіта запушчаным стане: перад галоўным уваходам ходнік зьнішчаны

(Заканчэньне на 3-й б.)

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПРЫЗНАНЬНЕ Й СУСТУПКІ

*(Кампартыя Беларусі рэагуе на пратэсты грамадзтва)*

Пратэсты грамадзкасьці ў БССР супраць заціску нацыянальнае культуры прывялі нарэшце да некаторага прызнаньня з боку партыі, што нараканьні справядлівыя. Партыйныя ўлады гатовыя цяпер крыху выправіць палажэньне.

На партыйным сходзе ў Саюзе Пісьменьнікаў Беларусі, што адбыўся на пачатку ліпеня сёлета, сакратар ЦК КПБ В. А. Пячэньнікаў прызнаў наяўнасьць, разам з «аб'ектыўнымі», і «суб'ектыўных» прычынаў, што прывялі да адмоўных зьяваў у галіне культуры. Справаздача БЕЛТА аб пісьменьніцкім сходзе, на якім выступаў Пачэньнікаў, зьмешчаная ў газэце «Зьвязда» за 7-га ліпеня. Пячэньнікаў сказаў: «У пяцідзясятых і шасьцідзясятых гадох узмацнілася бескантрольнае вызваленьне вучняў ад вывучэньня беларускай мовы, што прывяло да скарачэньня беларускамоўных школаў. Органы народнай асьветы своечасова не заўважылі і па сутнасьці пусьцілі на самацёк гэты працэс».

Пячэньнікаў сказаў, што цяпер замест таго, каб шукаць вінаватых, «галоўныя намаганьні трэба сканцэнтраваць перш за ўсё на тым, як выправіць становішча».

Што-ж партыя прапануе?

«Намечана расшырыць падрыхтоўку спэцыялістаў-моваведаў, выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, — пафінфармаваў Пячэньнікаў, — павысіць якасьць выкладаньня беларускай мовы ў сярэдняй, сярэдняй спэцыяльнай і вышэйшай школе. Расшыраюцца таксама дасьледаваньні па актуальных праблемах гісторыі і культуры Беларусі, функцыянаваньня беларускай і расейскай моваў. Будзе палепшаная дзейнасьць органаў культуры, творчых саюзаў па павышэньню ідэйна-мастацкага ўзроўню ствараных твораў. Робяцца канкрэтныя крокі для актывізацыі прапаганды літаратуры і мастацтва сярод насельніцтва. Удасканальваецца рэпэртуарная палітыка. Будзе палепшаная кнігавыдавецкая і часапісная справа ў рэспубліцы.

«У Закон БССР аб народнай асьвеце, прыняты на нядаўнай сэсіі Вярхоўнага Савету БМССР, — сказаў Пячэньнікаў, — унесенае палажэньне аб тым, што ў школах, дзе выкладньне вядзецца на расейскай мове, для вучняў ствараюцца неабходныя ўмовы для вывучэньня беларускай мовы. У гэтым пляне будзе адбывацца пераарыентацыя дзіцячых дашкольных установаў. У тых-жа дзіцячых садох, дзе выхаваньне вядзецца на расейскай мове, павялічыцца час на азнаямленьне дзяцей зь беларускім фальклёрам, творамі нацыянальнай літаратуры, выяўленчым і музычным мастацтвам, народнай творчасьцю.

«Калегія Міністэрства асьветы БССР прыняла рашэньне аб увядзеньні ў школах з расейскай мовай навучаньня вывучэньня беларускай мовы з другое клясы. Вядзецца распрацоўка новых навучальных плянаў для 1-4 клясаў і праграмаў па беларускай і расейскай мовах. Будуць дадаткова выдадзеныя дзясяткі назваў падручнікаў, мэтадычных дапаможнікаў, дыдактычных матар'ялаў, сэрыя кнігаў Бібліятэкі настаўніка беларускай мовы і літаратуры. З новага году пачне выходзіць часапіс 'Беларуская мова і літаратура ў школе'».

Калі параўнаем усё гэта, пра што сказаў сакратар ЦК КПБ Пячэньнікаў, з тымі дамаганьнямі, якія выказаныя ў «Дадатку» да Ліста 28-х (гл. «Беларус» № 336), дык пабачым, што яшчэ далёка да таго, каб нацыянальная культура ў БССР была прызнаная роўнаю з расейскай ды створаныя ўмовы для менш-больш нармальнага ейнага разьвіцьця. Але тое, пра што паінфармаваў Пячэньнікаў (хоць гаварыў ён у вельмі агульных тэрмінах, і на партыйныя абяцанкі, як ведама, часамі даводзіцца вельмі-ж доўга чакаць), становіць тым ня менш крок у правільным кірунку. Паводля гэткіх крокаў і трэба ацэньваць поступ гарбачоўскае перабудовы ды працэсу дэмакратызацыі ў савецкай Беларусі.

## ПРАГРАМА ЗЬЕЗДУ БАЗА

**Сybота 5 верасьня:**

**10-я гадзіна:** Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў на беларускіх магілках у Іст-Брансьвіку пры помніку гэроям паніхідай і прамовамі ўшануе **памяць беларускага пісьменьніка Алеся Гаруна з нагоды 100-х угодкаў ад нараджэньня.**

**1-я гадз. папаўдні:** Нарады 22-га кангрэсу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў залі Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру ў г. Гайленд-Парку.

**Нядзеля 6 верасьня:**

**10-я гадз.:** Служба Божая ў царкве Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ ў Гайленд-Парку.

**1-я гадз. папаўдні:** банкет у залі Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру. У часе банкету др. Ян Запруднік прачытае рэфэрат: «Гарбачоўская 'галоснасьць' і беларускі нацыянальны дух». У часе банкету будуць адзначаныя таксама 70-я ўгодкі ад нараджэньня Старшыні Рады БНР др. Язэпа Сажыча.

**Управа БАЗА**

# СУМНЫЯ ЎГОДКІ

**Памяць пра пакт Рыбэнтропа-Молатава**

23-га жніўня ў васьмёх буйнейшых гарадох Злучаных Штатаў, у колькіх гарадох Канады ды Аўстраліі, Скандынаўскіх краінаў, а таксама ў Вільні, Рызе й Таліне адбыліся дэманстрацыі, як напамін пра падпісаны 23.VIII.1939 г. пакт аб ненападзеньні й дружбе паміж гітлераўскай Нямеччынай ды Савецкім Саюзам. Падпісаньнем гэтага пакту, звычайна званым «пактам Рыбэнтропа-Молатава», Сталін даў магчымасьць Гітлеру пачаць Другую сусьветную вайну нападам на Польшчу 1.IX.1939 году. Пакт пакідаў Прыбалтыку ў «сфэры ўплываў» Масквы. На гэтай аснове Сталін і акупаваў тры прыбалтыцкія дзяржавы ў жнівені 1940 году.

Арганізатарамі ўрачыстасьцяў «Дня Чорнае Істужкі» ў гор. Нью-Ёрку былі арганізацыі балтыцкіх народаў ды прадстаўнік польскіх, украінскіх і беларускіх арганізацыяў. Ад Беларусаў у арганізацыйны камітэт уваходзіў сп. Антон Шукелайць, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Масавы мітынг, прысьвечаны 48-м угодкам каншафту Сталіна зь Гітлерам, адбыўся ў Нью-Ёрку перад катэдрай Сьвятога Патрыка на цэнтральным Пятым Авэню ў нядзелю 23-га жніўня. На фоне сьцягоў балтыцкіх нацыяў, польскага ды беларускага нацыянальных сьцягоў быў расьцягнуты плякат з адлюстраваньнем свастыкі ды сярпа з молатам, якія дзялілі «сфэры ўплыву».

На фоне нацыянальных сьцягоў і палітычна вельмі ўдалага плякату выступалі прамоўцы балтыцкіх народаў, Палякоў ды Беларусаў. Ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня выступаў др. Вітаўт Кіпель, якога балтыцкі арганізацыйны камітэт папрасіў у тэму свае прамовы ўлучыць і аналіз дэмаграфічных стратаў балтыцкіх народаў. Др. Кіпель гаварыў аб стратах жыхарства Беларусі, балтыцкіх краёў, Украіны ды Польшчы ў выніку Другое сусьветнае вайны ды аб тым, як на гэтых стратах скарыстала савецкая ўлада. Беларускі дакладчык адзначыў, што страты жыхарства ў балтыцкіх рэспубліках, на Украіне і на Беларусі ў выніку ваенных падзеяў, дэпартацыяў у Сібір, расстрэлаў, эміграцыі на Захад у пэрыядзе 1939-1947 гадоў складаюць больш за 12 мільёнаў асобаў. Каб часткова запоўніць гэтыя страты, савецкая ўлада ў паваенным часе правяла масавае перасяленьне ў заходнія рэспублікі Саюзу расейскага элемэнту. У выніку гэтага перасяленьня колькасьць Расейцаў у балтыцкіх краёх, на Беларусі ды на Украіне значна ўзрасла. А гэта-ж, казаў дакладчык, старое імкненьне расейскіх цароў, пачынаючы ад разьдзелу Вялікага Княства Літоўскага, — насяліць заходнія землі Імпэрыі этнічна расейскім жыхарствам. «Толькі чыста расейскае жыхарства забясьпечыць Імпэрыі ейныя заходнія межы», — гэтак паўтаралі расейскія цары. «А выканала гэта савецкая ўлада ў выніку Другое сусьветнае вайны», закончыў выступленьне беларускі дакладчык на ўрачыстасьці ў Нью-Ёрку.

У дэманстрацыі, на якой было каля паўтысячы ўдзельнікаў, узяло ўдзел шмат сяброў аддзелаў БАЗА зь Нью-Ёрку й Нью-Джэрзы. На ўрачыстасьці былі прадстаўнікі амэрыканскага ды этнічнага друку, колькі кампаніяў запісалі мітынг на відэа-істужку.

# РАЗГРОМ КЛЮБУ «СПАДЧЫНА»

***Ад рэдакцыі:** Да нас прыйшоў яшчэ адзін дакумэнт з Бацькаўшчыны — напісаны парасейску, бяз даты й подпісу, але, як з усяго відаць, з праўдзівымі весткамі аб тым, што здарылася ў сьнежні летась у Менску. Ніжэй зьмяшчаем поўны тэкст гэтага дакумэнту.*

Па вельмі шматлічных цяжкасьцях, якія выяўляліся ў тым, што гарадзкія ўлады шмат разоў пераганялі сядзібу клюбу «Спадчына» зь месца на месца, у рэшце рэштаў было дадзенае гэтай арганізацыі месца ў сутарэньні жылога 4-павярховага дому на вул. Меньдзелеева нумар 3. На гэтым новым месцы арганізатары клюбу «Спадчына» разгарнулі вельмі актыўную дзейнасьць, якая выяўлялася ў шматлічных аўтарскіх сустрэчах, выступленьнях і дакладах шмат каго зь беларускіх пісьменьнікаў, мастакоў ды прадстаўнікоў навукі. Сходы арганізоўваныя «Спадчынай», дармо што памешканьне ў сутарэньні было цеснае, прыцягвалі па 100-150 слухачоў. Ня ўсім удзельнікам ставала крэслаў. Шмат хто сядзеў на дошках, пакладзеных паміж крэслаў, шмат хто стаяў каля сьценаў або ў адчыненых дзьвярох сутарэньня.

Гарадзкія ўлады ўсяляк стараліся перашкодзіць дзейнасьці клюбу «Спадчына». У сувязі з тым, што гэтыя стараньні не давалі ніякіх вынікаў, а наадварот, лік удзельнікаў мерапрыёмстваў, арганізоўваных «Спадчынай», усьцяж большаў, улады наважыліся на радыкальны крок, як-бы жыўцом узяты із сталінскай практыкі.

17 сьнежня 1986 году да дому нумар 3 на вуліцы Меньдзелеева пад'ехалі чатыры грузавікі з пажарнікамі й міліцыянерамі. Пажарнікі пачалі ламаць дзьверы клюбу «Спадчына». Устрывожаныя жыхары дому зьбегліся й пачалі пытацца «што сталася?». Міліцыянеры супакойвалі ўсіх ды прасілі разыйсьціся па кватэрах. Мясцовым жыхаром казалі, што памешканьне клюбу патрабуе тэрміновага рамонту ды што ў сувязі з гэтым трэба вывезьці з клюбу ўсе экспанаты і рэчы, якія там ёсьць.

Пажарнікі, выламаўшы дзьверы, накінуліся як хіжакі на экспанаты, рэчы й кнігі, якія маюць карэннае значаньне для беларускай культуры. Усе гэтыя рэчы былі бязуважна й груба вынесеныя з памешканьня ды ўськінутыя на падстаўленыя грузавікі. Сярод гэтых экспанатаў знаходзіліся тысяча графічных твораў, 200 мэдалёў, 70 скульптураў, 130 твораў, прысьвечаных Скарыну, каля 1000 кнігаў, мноства часапісаў і газэтаў. Шмат з гэтых рэчаў, асабліва тыя, што былі зробленыя зь гіпсу, былі ў часе гэтага разьбітыя ці пашкоджаныя. Уся гэтая маемасьць была перавезеная на вуліцу Уральскую нумар 10 ды там хаатычна безь якога-небудзь пляну й парадку сьцінутая ў памешканьне бомбасховішча.

Пажарнікі сказалі, што ўсё гэта трэба было зрабіць з тае прычыны, што ў памешканьні клюбу мусяць быць зьмененыя вадаправодныя трубы. Гэты «аргумэнт» ня мог ня выклікаць падазраньня ў сувязі з тым, што

*(Заканчэньне на 3-й б.)*

**Старшыню Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**

**др. ЯЗЭПА САЖЫЧА**

***вітаем зь 70-мі ўгодкамі жыцьця й шматгадовай грамадзка-палітычнай дзейнасьці ды шчыра зычым шмат гадоў добрага здароўя й плённай далейшай працы на дабро Беларускае нацыянальна-вызвольнае справы.***

**Галоўная Ўправа БАЗА**
**Сябры рэдкалегіі «Беларуса»**

# ЗАГАДКА З КЛЮБАМ «СПАДЧЫНА» Й ГАЗЭТАЙ «НІВА»

Чатыры месяцы пасьля падзеяў, апісаных у дакумэньце, які мы зьмясьцілі ў гэтым нумары («Разгром клюбу 'Спадчына'»), беластоцкая газэта «Ніва» (19.IV.87, рубрыка «Вестկі зь Беларусі», загаловак карэспандэнцыі: «Без учарашняга няма сёньняшняга», аўтар: «А. Б.») пісала гэтак:

«У Менску існуе клюб 'Спадчына', які паўстаў пад канец 1984 году на падставе пастановы Выканаўчага камітэту раёну Партызанскі беларускай сталіцы. Клюб атрымаў асобнае памешканьне ў доме на вуліцы Мендзялеева, 3. Яго дзейнасьцю кіруе рада, абраная сярод жыхароў гэтага гарадзкога мікрараёну, у ёй і настаўнікі, і партыйныя кіраўнікі. Раду ўзначаліў Анатоль Белы, выкладчык філязофіі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту імя Леніна як ініцыятар заснаваньня клюбу 'Спадчына'. Ужо 20 лютага 1985 г. клюб гэты ўрачыста прыняў першых наведвальнікаў. 'Спадчына' займаецца прапагандай беларускай савецкай літаратуры й мастацтва, культуры й навукі, эстэтычнай культуры, патрыятычным выхаваньнем, а таксама садзейнічае папулярызацыі ведаў і культуры сярод жыхароў мікрараёну і, нават, па-за яго межамі.

«Ініцыятыва гэтая выявілася настолькі сваечасовай і патрэбнай, што клюб 'Спадчына' хутка ператвараецца ў сапраўдны музэй ды захавальнік твораў беларускіх мастакоў.

«Колькі разоў у месяц (2-3) адбываюцца сходы, у часе якіх выступаюць запрошаныя пісьменьнікі Беларусі, дзеячы яе культуры й навукі. Ужо былі гасьцямі 'Спадчыны' Янка Брыль, Іван Шамякін, Ніл Гілевіч, Адам Мальдзіс, Генадзь Каханоўскі, Генадзь Кісялёў, дактары навук Анатоль Грыцкевіч, Георгій Штыхаў, Есіф Юхо, Эрнэст Ляўкоў; выступаў у 'Спадчыне' і Алесь Барскі».

У сьвятле зьмешчанага ў гэтым нумары «Беларуса» дакумэнту пра разгром «Спадчыны», што адбыўся ў сярэдзіне сьнежня летась, карэспандэнцыя ў «Ніве» ў сярэдзіне красавіка сёлетняга году, зь якое выглядае, што клюб «Спадчына» функцыянаваў і надалей яшчэ ўвесну сёлета на сваім старым месцы, становіць трывожную загадку, якую рэдакцыя «Беларуса» паспрабуе расшыфраваць.

## РАЗГРОМ КЛЮБУ

*(Заканчэньне з 2-й б.)*

ўсё гэта адбывалася ў пэрыядзе вельмі вялікіх маразоў, у часе якіх бадай ніхто на сьвеце вадаправодных трубаў не мяняе. Зрэшты, гэтак яно й было ў дадзенай сытуацыі. Пажарнікі, праўда, вырвалі колькі дошак з падлогі каля сьценаў, робячы выгляд, што як быццам маняцца дабірацца да вадаправодных трубаў. Але на працягу колькіх месяцаў наагул ніхто не зьяўляўся ды ніякіх трубаў не замяняў.

Хіба ў гэтым выяўляецца існасьць гарбачоўскае перабудовы?

# СЬЛЯДЫ НІШЧЭНЬНЯ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

(відаць, ніколі ня правіўся пры савецкай уладзе), праз яго буйна прарасла трава.

Бязумоўна, лепш захаваліся помнікі архітэктуры ў Заходняй Беларусі: у Горадні, Пінску, Нясьвіжы ды іншых гарадох. Там, калі гаварыць аб сьвятынях, дык яшчэ можна пабачыць на фатаграфіях ня толькі вонкавы, але й нутраны выгляд. Асабліва няблага захаваліся касьцёлы. Дарэчы тут будзе ўспомніць, што на 84 ілюстрацыі ў даведніку няма аніводнае фатаграфіі нутранога выгляду хоць якое-небудзь праваслаўнае царквы. А ў нас-жа былі гэткія прыгожыя іканастасы ў цэрквах!

хутка...

І на заканчэньне агляду даведніка хочацца прыгадаць адзін з касьцёлаў у Вільні — касьцёл сьв. Міхала, які літоўскія духоўныя ўлады ў часе Другой сусьветнай вайны аддалі на карыстаньне Беларусам. Тут служыў а. Адам Станкевіч да свайго арышту й ссылкі ў Сібір. Тут нейкі час перахоўваліся экспанаты Віленскага Беларускага Музэю. Але найважнейшае — тут пахаваны Леў Сапега, і ягоны надгробны помнік з багатай скульптурнай кампазыцыяй належыць да найцікавейшых помнікаў Вільні. Касьцёл гэты сёньня афіцыйна — музэй архітэктуры, а фактычна стаўся



*Барысаглебская царква ў Навагрудку (1519) з пазабіванымі вокнамі*

Праф. Чантурыя ня любіць у сваіх апісаньнях сьвятыняў гаварыць, якую функцыю яны выконваюць цяпер. Функцыя іхная аднак відаць часта з фатаграфіяў. Прыкладам, касьцёл манастыра брыгідак у Горадні. Сьвятыня, відаць, сталася складам, у які павінны заяжджаць цяжкія грузавікі. Тымчасам ейная прыгожая брама аказалася завузкая. Дык поруч высеклі шырокі ўезд, які зачыняецца неахайна зьбітымі з аполкаў дзьверымі.

месцам, дзе дэманструюцца розныя будаўляныя матар'ялы і ўладжаньні. Помнік Сапегі ў стане развалу: паабіваныя твары, ногі, рукі скульптураў, паразьбіваныя табліцы з напісамі.

Гэткі вось стан помнікаў беларускай архітэктуры, мастацтва й гісторыі. Перад намі абраз плянавага зьнішчэньня характэрных рысаў беларускага краю, нішчэньне сваеасаблівага выгляду гарадоў і мястэчак, савэтызацыя беларускага ляндшафту. Ня дзіва



*Кальвінскі збор у Смаргонях (1553), што зарос пустазельлем, як і ўся мінуўшчына Беларусі.*

А вось для прыкладу яшчэ адна ведамая ў гісторыі Беларусі сьвятыня: Смаргонскі касьцёл. Ён пабудаваны ў 1553 годзе як кальвінскі збор у абаронным стылі пары рэнэсансу. Аб касьцеле гэтым ня так даўно згадваў др. Б. Грабінскі ў сваіх успамінах пра мастака Сергіевіча. Гэта ў гэтым касьцеле Сергіевіч размаляваў знутра купал, выкарыстаўшы як мадэляў мясцовых людзей. Сьвятыня гэтая цалкам запушчаная: на страсе каля купала парос кустарнік вышэй росту чалавека. Мяркуючы паводля фатаграфіяў у 9-м томе Беларускае Савецкае Энцыклапэдыі, які выйшаў у 1973 годзе (арт. «Смаргоні»), выгляд сьвятыня мела цалкам нармальны. Але кусты растуць

таму, што савецкія ўлады замежным наведвальнікам Беларусі далей як Менск ды Хатынь езьдзіць не дазваляюць.

**Антон Шукелайць**

# «ДАСЯГНЕНЬНІ» САЦЫЯЛІЗМУ

*(З дакладу Старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР Г. С. Таразевіча на шостай сэсіі ВС БССР адзінаццатага скліканьня. «Зьвязда», 31.V.1987)*

«Ці можам мы, напрыклад, сказаць, што сёньня стала лепшым гандлёвае абслугоўваньне, што больш прадметна ажыцьцяўляюць кіраўніцтва гэтай галіной мясцовыя Саветы? Не, ня можам. (...)

«Не задавальняюцца патрэбнасьці людзей. Ня будзем пакуль гаварыць аб асабліва модных і тэхнічна складаных вырабах. Паглядзім, ці заўсёды ёсьць у нашых магазынах тавары, якія можна выпускаць на месцы, зь мясцовай сыравіны, з выкарыстаньнем мясцовых магчымасьцяў? На жаль, і такія тавары вельмі часта трапляюць у разрад 'дэфіцыту'. (...)

«Далёкі ад аптымальных нормаў узровень вытворчасьці і продажу многіх харчовых тавараў. Дастакова сказаць, што спажываньне агародніны адстае ад рацыянальнай нормы на 33 працэнты і амаль на 20 працэнтаў ніжэйшае, чым у сярэднім па краіне. А ў Віцебскай і Гродзенскай абласьцях гэтыя паказчыкі яшчэ горшыя. Не задавальняецца попыт насельніцтва нават на кансэрваваныя агуркі і памідоры, варэньне, кампоты, кандытарскія вырабы. Рэдка бывае ў продажы прадукцыя з бульбы, а бульбяныя клёцкі, яблыкі, зялёны гарошак у рэспубліку прыхадзіцца завозіць. (...)

«Цэгла, дзьвярныя і аконныя блёкі, цэмэнт, шыфер, паркет — купіць гэтыя, ды многія іншыя будаўнічыя матар'ялы іншы раз бывае ня так ужо проста. Не лягчэй з транспартам і іншымі паслугамі».

## МОВА: СТРАТА ГНУТКАСЬЦІ

«Мова якая сталася літаратурнай, паступова й незаўважна нівэлюецца, калі яна ня жывіцца народнай лексыкай, народнымі крыніцамі словатварэньня. Расейская мова пад уплывам газэтнікаў, радыё — й тэлежурналізму, канцылярскага ліставаньня, загадаў, цыркуляраў за апошні час моцна засушылася, зьбяднела. Выручаюць хіба што абласныя выразы, дыялекты. Беларускую мову ў сваю чаргу моцна закалькавалі, страціўшы народную гнуткасьць і рухомасьць слова. Даслоўна перакладаюцца цэлыя ідыёматычныя расейскія фразы, нават пагаворкі, прымаўкі». — *Рыгор Барадулін*, «Неман», 1987, № 2, б. 159.

***Уладзімер Караткевіч***

* * *

*Старайся (але, вядома, ня кату)*
*Сказаць адзіна верныя словы:*
*Замест:*
*— О Божа, ды будзьце вы клятыя!*
*Сказаць:*
*— О Божа, ды ўстаньце здаровы!*

(3 кн. «Быў. Есьць. Буду», Менск, 1986)

# ЛІСТ 134-Х ДА ГАРБАЧОВА

*(Працяг зь 1-й б.)*

валодаюць другой мовай народаў СССР (мовай іншай нацыянальнасьці)». Гэткім парадкам, палажэньне дакладу аб другой роднай мове, быццам-бы аснованае на дадзеных перапісу 1979 году, у корані выкрыўляе запраўднасьць і становіць фальсыфікацыю.

Лічбы аб пэрыядычных ды іншых выданьнях, паданыя ў дакладзе, таксама выкрыўляюць абраз рэчаіснасьці, бо прадстаўленыя аднабакова, нічога не сказана аб мізэрных тыражох выданьняў у беларускай мове. А ведама-ж, што ўдзельная вага, прыкладам, мастацкае літаратуры (працэнтаў у друкаваных аркушах-адбітках), якую выпушчаюць рэспубліканскія выдавецтвы ў расейскай мове, станавіла яшчэ на 1984 год 95,3 працэнта. Агульны тыраж шасьцёх рэспубліканскіх газэт у беларускай мове ў 10 разоў (!) меншы за тыраж 5 рэспубліканскіх газэт у расейскай мове. Дакладчык, відаць, мяркуе, што можна ўгаварыць, быццам-бы самы факт выданьня ў беларускай мове сьветчыць аб ейным свабодным і раўнапраўным палажэньні («Дык якое-ж гэта забыццё роднае мовы, роднае культуры!»). У сувязі з гэтым трэба нагадаць, што існаваньне друкаваных выданьняў у нацыянальнай мове далёка не заўсёды сьветчыць аб свабодным і раўнапраўным ейным разьвіцьці. У царскай Расеі па рэвалюцыі 1905 году, прыкладам, таксама выходзілі беларускія газэты й часапісы «Наша Доля», «Наша Ніва», «Саха» «Лучынка», «Маладая Беларусь» ды інш., але ня было ніводнае беларускае школы й ніякага (ні фармальнага ні практычнага) грамадзка-палітычнага прызнаньня правоў беларускае мовы.

«У рэспубліцы створаныя ўсе ўмовы для разьвіцьця беларускай мовы, беларускай нацыянальнай культуры ў цэлым», — паведаміў дакладчык. «Тое, што наша рэспубліка сталася рэгіёнам разьвітое двумоўнасьці, — бясспрэчна заваёва нацыянальнай палітыкі нашай партыі», — сказана ў тэй-жа прамове.

Запраўднасьць сёньняшняга дня паказвае, што ў Беларускай ССР «разьвітое двумоўе» існуе толькі на паперы, што беларуская мова ўшчамляецца і даўно ня мае дэкляраванага ёй свабоднага разьвіцьця. Даволі сказаць, што ў беларускіх гарадох, дзе яшчэ ў 1979 годзе доля жыхарства беларускае нацыянальнасьці станавіла 71,5 працэнта,** не засталося ніводнае беларускае школы, што беларускія школы ў селавой мясцовасьці ў большыні сваёй толькі ў справаздачных паперах ды на шыльдах гэткія. Няма і ў спаміне «двумоўнасьці» ў сыстэме вышэйшай, сярэдняй, спэцыяльнай і прафэсіянальнай тэхнічнай адукацыі (унівэрсытэты, інстытуты, тэхнікумы, вучылішчы). Усе кадры спэцыялістаў для народнай гаспадаркі, культуры й асьветы рыхтуюцца ў расейскай мове (нават на філялягічных факультэтах усе прадметы, апрача беспасярэдня датычных да беларускае мовы й літаратуры, выкладаюцца парасейску). У выніку за ўвесь паваенны пэрыяд у Беларусі не падрыхтавана ніводнага настаўніка спэцыяльна для беларускамоўнае школы. Практычна ўсё справаводзтва ў рэспубліцы вядзецца ў расейскай мове. Нават проста за пасьлядоўнае і сьведамае карыстаньне беларускай мовай (ня кажучы ўжо аб супрацьдзеяньні гэткай палітыцы) чалавека часьцяком зьневажаюць, абвінавачваюць у нацыяналізьме.

Як відаць з усяго гэтага, «свабоднае волевыяўленьне» ў выбары мовы, на якое спасылаецца т. Я. Я. Сакалоў, часьцей за ўсё абарачаецца свабодным прымусам да расейскае. То-ж бо запраўднае свабоднае волевыяўленьне мае за перадумову магчымасьць свабоднага выбару. А пра які выбар можа быць гутарка, калі выбіраць, шчыра кажучы, няма з чаго: хочаш, прыкладам, навучаць дзіцё ў беларускай мове, а школы ў горадзе расейскія; хочаш паглядзець новы мастацкі фільм у роднай мове, але й гэта практычна немагчыма.

Ня трэба забывацца, што ўсё гэта адбываецца ў рэспубліцы, якая мае дзяржаўны сувэрэнітэт і зьяўляецца аднэй з членаў-заснавальнікаў ААН, у рэспубліцы, дзе, яшчэ раз нагадаем, 83,5 працэнта жыхароў карэннае нацыянальнасьці ўважаюць беларускую мову за родную мову.

Пэўна-ж, пра ўсё гэта добра ведаюць кіраўнікі рэспублікі, у тым ліку тав. Я. Я. Сакалоў. І разам з тым заплюшчваюць вочы, упорыста ня хочуць бачыць праблемы, якая ўжо даўно насьпела, нават не спрабуюць разьвязаць яе. Затым няма дзіва, што ў дакладзе ўва ўсіх галінах жыцьця рэспублікі адзначаныя недагляды й недахопы і толькі ў галіне разьвіцьця беларускай мовы й нацыянальнай культуры недаглядаў і недахопаў няма, усё выдатна, «бясспрэчная заваёва».

У якасьці аднае з чародных і важнейшых задачаў у нацыянальнай палітыцы, праводжанай у Беларусі, выстаўляецца фармаваньне і ўзгадаваньне ў людзей высакародных пачуцьцяў «братняй любові й пашаны да вялікага расейскага народу, іншых народаў краіны...». Дзіва, як быццам-бы Беларус ня мае гэтых пачуцьцяў да Украінца, Расейца, Латыша, Малдаваніна... Ужо-ж каму-каму, а Беларусам ніхто ня можа закінуць, што яны ня маюць любові да іншых народаў. Дык гэтак, наагул правільная дэклярацыя ператвараецца ў фразу бяз прычыны, асабліва калі ўлічыць, што пры гэтым топчуцца пачуцьці нацыянальнае годнасьці собскага народу. З гэтага поваду Ю. Бондараў на пленуме праўленьня СП СССР зазначыў: «Самасьцьвярджаньне патрэбнае ўсім нацыям, а не самааплёўваньне».

Мы ня супраць расейскае мовы, мы за тое, каб у аднолькавай ступені дасканала вывучаліся ў нас беларуская й расейская, памятаючы, што беларуская мова — родная мова нашага народу, нашай культуры.

«Калі мы хочам захаваць нацыянальную літаратуру, мы павінны тэрмінова ўжыць самых станаўкіх захадаў для вывучэньня ў школах дзьвюх моваў: расейскае й роднае. Пачынаючы з першых клясаў, — сказаў на тым-жа пленуме праўленьня саюзу пісьменьнікаў С. Міхалкоў, — першай мовай павінна быць свая, родная, а другой не замежная, не француская, ангельская, гішпанская, а расейская».

---

** География и проблемы регионального развития Белоруссии. Научные сообщения по программе VIII съезда Географического общества СССР. — Мн., «Вышэйшая школа», 1985, с. 51.

*(Заканчэньне на 7-й б.)*

# У АЎСТРАЛІІ

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

У Мэльбурне быў адзначаны Тыдзень Паняволеных Народаў. Урачыстасьці пачаліся 2-га жніўня багаслужбай у каталіцкай катэдры Сьв. Патрыка, запоўненай малельнікамі розных нацыянальнасьцяў. У касьцёл быў унесены вялікі дзеравяны крыж (на ўзор крыжа, які нёс Ісус Хрыстос на Галгофу), а за крыжом былі ўнесеныя нацыянальныя сьцягі ўдзельнікаў урачыстасьці. У часе багаслужбы малітвы ў родных мовах чыталі: Армяне, Беларусы, Чэхі, Славакі, Вугорцы, Латышы, Літоўцы ды Харваты. Малітву пабеларуску чытала сп-ня Надзя Груша. Сьпявалі польскі й літоўскі хоры. Зьмястоўную казань аб пагвалтаваньні грамадзянскіх правоў і перасьледзе рэлігіі ў камуністычных краінах сказаў настаяцель капліцы Монашскага Ўнівэрсытэту а. Л. Фут. Багаслужба закончылася блаславенствам, якое далі а.а. А. Бугіс — лютэранін, А. Кулакоўскі — праваслаўны ды Дж. Мэрфі — каталік. Папаўдні ў залі «Доляс Брук Гол», недалёка ад катэдры, адбыўся канцэрт, у якім узялі ўдзел Армяне, Беларусы, Віетнамцы, Вугорцы, Латышы, Літоўцы, Славакі, Украінцы, Харваты, Чэхі ды Эстонцы. Беларускі мастацка-танцавальны гурток «Каліна» ўдала выканаў народны танец «Сьвеціць месяц».

Ганаровую варту пры сьцягу трымалі сп. А. Груша ды ягоная дачка Таня.

Праф. Джэфры Блэйней — гісторык, пісьменьнік і дзяржаўны дзеяч, зрабіў зьмястоўны рэфэрат-аналіз бязглуздае камуністычнае сыстэмы ды заклікаў эмігрантаў, якія пазналі гэтую сыстэму, дзяліцца сваім дазнаньнем з Аўстралійцамі, якія гэтай сыстэмы ня ведаюць.

За наладжаньне канцэрту належыцца вялікая падзяка Арганізацыйнаму Камітэту, на чале якога стаіць сп-ня Тэрэза М. Краль, яна-ж і старшыня Камітэту Паняволеных Народаў, ды ўсім выканаўцам-удзельнікам канцэрту.

5-га жніўня стараньнямі Камітэту Паняволеных Народаў, у які таксама ўваходзіць Беларускі Цэнтральны Камітэт правінцыі Вікторыя, быў арганізаваны сэмінар на тэму: «Савецкая экспансія ў Паўдзённым-Ціхім акіяне». Дакладчыкамі былі: М. О'Конар, галоўны дырэктар Таварыства Абароны Аўстраліі; др. К. Рубінштэйн, выкладчык факультэту палітычных навукаў Монашскага Ўнівэрсытэту; Д. Жорт, сэнатар Фэдэральнага парлямэнту; др. М. Лаўрыўскі, старэйшы выкладчык факультэту эканомікі ўнівэрсытэту Ля Троб. У дакладах і дыскусіях былі выказаныя моцныя сумляваньні што да магчымасьці паважных зьменаў у савецкай сыстэме.

**М. Скабей**

## ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ

Васемнаццаты агульны зьезд Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі адбыўся 25 ліпеня сёлета ў Беларускім Народным Доме. Вялікай прыемнасьцяй было бачыць сёлета на зьезьдзе больш нашай моладзі. Вітаў удзельнікаў, адчыняючы зьезд, старшыня ўступаючай управы сп. Міхась Раецкі малодшы. У кароткіх зьмястоўных словах да моладзі ён сказаў: «Хоць мы народжаныя ў Аўстраліі, аднак наш абавязак — ня стацца гістарычнымі Фінікійцамі, якія хоць і далі шмат для сусьветнай культуры, але, як народ, загінулі бясьследна. Дык не дазвольма, каб мы сталіся імі, працягваймa традыцыі нашых бацькоў!»

Са справаздачаў старшыні, скарбніка й кіраўніка беларускіх радыяперадачаў вынікала, што ўправа справілася з ускладзенымі на яе абавязкамі вельмі добра, за што была ўзнагароджаная гучнымі воплескамі. На кадэнцыю 1987/88 гадоў была выбраная новая ўправа ў складзе: старшыня — Міхась Раецкі малодшы, заступнік старш. — Леў Дамброўскі, сакратар — Алекс Мароз малодшы, заступнік сакр. — Марыйка Ёлаб, скарбнік — Алесь Мароз старэйшы. У гаспадарчы камітэт увайшлі: Сяргей Дамброўскі, Марыя Пятрэнка, Міхась Ёлаб, Ефрасіньня Дамброўская, Марыя Мароз.

Па выбарах адбыліся разважаньні над плянам працы, але зь недахопу часу плян дзейнасьці будзе фармальна прыняты на першым паседжаньні новаабранае ўправы.

Па афіцыйнай частцы адбылося супольнае падсілкаваньне.

**Прысутны**

## ДЗЕНЬ СЬВЯТЫХ

Парафія БАПЦ Сьв. апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе ў Паўдзённай Аўстраліі адзначыла 12 ліпеня 1987 г. вялікай урачыстасьцяй дзень сваіх патронаў. На багаслужбу прыбыло парафіянаў і гасьцей больш, як звычайна ў нядзелю. Царква была ўпрыгожаная жывымі кветкамі. Кожны адчуваў вялікае сьвята. Службу Божую адслужыў настаяцель царквы а. Міхаіл Бурнос. Царкоўным хорам кіраваў сп. Уладзімір Калесьнbacksofar.

На малебен прыехалі два сьвятары з Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы: прат. Пётр ад парафіі Сьв. Архістраціга Міхаіла і а. Аляксандар Жылінскі ад Сьвятапакроўскае парафіі. Быў абход вакол царквы. У прыцаркоўнай залі адбыўся супольны абед.

Вялікая падзяка належыцца царкоўнаму камітэту ды жанчынам за прыгатаваньне смачнае стравы. Дзень сьв. Пятра й Паўла прайшоў у вясёлай атмасфэры, якой спрыяла цёплае сонечнае надвор'е.

**У. Акавіты**

## АХВЯРЫ НА РАДЫЯПРАГРАМУ

*На Беларускую радыяпраграму ў Пэрце, Зах. Аўстралія, склалі грашовыя ахвяры наступныя асобы:*

**ЗША**

| | | |
|---|---|---|
| 1. С. Карніловіч | ам дал. | 100 |
| 2. К. Калоша | | 50 |
| 3. А. Сацэвіч | | 50 |
| 4. А. Міцкевіч | | 30 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| 1. Др. Р. Жук-Грышкевіч | 50 |
| 2. М. Шуст | 120 |

**НЯМЕЧЧЫНА**

| | |
|---|---|
| Др. Б. Кіт | 200 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | |
|---|---|
| 1. М. Скабей | 50 |
| 2. П. і В. Дарэўскі | 100 |
| 3. Е. Дамброўскі | 20 |
| 4. Х. Данэйка | 20 |
| 5. С. Дамброўскі | 20 |
| 6. К. і З. Ёлаб | 20 |
| 7. М. Раецкі малодшы | 20 |
| 8. А. Мароз малодшы | 20 |
| 9. А. Раецкі | 20 |
| 10. В. Раецкі | 20 |
| 11. М. Раецкі | 20 |
| 12. А. і М. Мароз | 10 |
| 13. М. Пятрэнка | 10 |

# ЗЬЕЗД ЗБВВ

41-ы агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбыўся 18 чэрвеня 1987 г. ў залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане. Адчыніў зьезд прывітальным словам старшыня ЗБВВ сп. Янка Міхалюк. Ён таксама шчыра вітаў сп-ства Грыгальчыкаў, якія разам з сынком прыбылі ў Англію зь Беларусі толькі два месяцы таму.

У мандатную камісію былі абраныя сп.сп. Я. Мазура, М. Баяроўскі і а. А. Надсон, у прэзыдыюм — Я. Міхалюк (старшыня) ды Я. Ясьвіловіч і А. Здановіч (сакратары).

Зьезду былі прысланыя прывітаньні ад старшыні Згуртаваньня Беларусаў Канады др. Раісы Жук-Грышкевіч, старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антона Шукелайця ды былых сяброў-заснавальнікаў ЗБВВ: сп. Міколы Нікана з Аўстраліі, др. Віктара Сянькевіча зь Гішпаніі й др. Вінцука Жук-Грышкевіча з Канады.

Із справаздачных дакладаў было відаць, што дзейнасьць ЗБВВ была скіраваная як на нутраныя адрэскі працы, гэтак і навонкі. Існаваньне ЗБВВ сталася зарукай далейшаму існаваньню Беларускай Бібліятэкі й Музэю імя Ф. Скарына ды дзейнасьці Англа-Беларускага Таварыства.

Вялікая акцыя была праведзеная ў справе абароны Міхася Кукабакі, які дамагаецца выезду з Савецкага Саюзу. ЗБВВ выслала яму запросіны на сталы прыезд у Англію, дзе яму будуць забясьпечаныя праца й жыльлё. Копіі запрашальнага ліста былі высланыя Генэральнаму Сакратару ЦК КПСС М. Гарбачову ды арганізацыі Міжнародная Амністыя.

Зьезд выказаў абсалютораўм устурпаючай управе. У новую галоўную ўправу арганізацыі былі выбраныя: Я. Міхалюк — старшыня, А. Здановіч — заступнік старшыні, А. Ражанец — сакратар, П. Асіповіч — скарбнік і Я. Ясьвіловіч — сябра. У наглядную раду й сяброўскі суд увайшлі: А. Лашук, Т. Дзімітраў і Я. Сяўковіч.

Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць адыйшоўных у вечнасьць прыяцеляў і сяброў ЗБВВ сьв. пам. У. Бутрымовіча, Э. Навары, А. Койкі.

Прывітаны на зьезьдзе сп. П. Грыгальчык падзяліўся ўражаньнямі аб Англіі ды расказаў пра цяжкія перажываньні ў Савецкім Саюзе, асабліва калі ягоная жонка Тамара была ў ссылцы. Прынагодна сп. Грыгальчык зачытаў пару сваіх вершаў, напісаных пад уражаньнем сустрэчы з бацькам, які прабыў у ссылцы ад 1939-га да 1953 году.

Зьезд закончыўся адсьпяваньнем нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Адбылася супольная вячэра, за ўдалае падрыхтаваньне якое выказваецца шчырае беларускае дзякуй спадарыні Алёне Міхалюк, непахіснай ахвярнай і творчай гаспадыні нашых частых супольных прыняцьцяў ды банкетаў.

**А. Здановіч**

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

## НЬЮ-ЁРК

Адзначэньне Тыдня Паняволеных Народаў у Нью-Ёрку пачалося ў нядзелю 19 ліпеня традыцыйнай маніфэстацыяй па 5-м Авэню ў Мангатэне, багаслужбай у катэдры сьв. Патрыка ды мітынгам у Цэнтральным парку, дзе выказваўся пратэст супраць паняволеньня народаў камуністычным імпэрыялізмам Масквы. Былі прачытаныя прывітаньні ад амэрыканскіх палітычных дзеячоў ды прадстаўнікоў афіцыяльных уладаў.

Ад Беларусаў у дэманстрацыі ўзялі ўдзел сябры Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі.

Заканчэньне Тыдня адбылося ў нядзелю 26 ліпеня ў Брукліне. Там у нямецкай лютэранскай кірсе пастар Горст Гутшэ адправіў багаслужбу, сказаў прынагодную казань. Пасьля ў залі кірхі адбыўся банкет з прамовамі дзеячоў Камітэту Паняволеных Народаў, які зарганізаваў урачыстасьць, ды амэрыканскіх гасьцей.

Беларусаў на гэтых урачыстасьцях рэпрэзэнтавала Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

**М.С., А.Ш**

## ЛЁС-АНДЖЭЛЕС

У сыботу 18 ліпеня ў польскім касьцеле ў Лёс-Анджэлесе адбылася багаслужба, прысьвечаная Тыдню Паняволеных Народаў. Сьв. Імшу адправіў Біскуп Арманда Акоа ў асысьце чэхаславацкага й польскага ксяндзоў. Біскуп сказаў казань, прысьвечаную паняволеным народам. Па багаслужбе адбылася акадэмія ў парафіяльнай залі. Тут з даўжэйшай прамовай выступіў украінскі прадстаўнік, успамінаючы ў ліку рэпрэсіяваных савецкімі ўладамі і беларускіх іншадумцаў. Старшыня арганізацыі Амэрыканцы за Свабоду Паняволеным Народам др. Альгерд Клейнот, які вёў праграму, прачытаў праклямацыю Прэзыдэнта Рэйгана ды рэзалюцыю, якую ўдзельнікі прынялі. У рэзалюцыі сярод паняволеных краёў названая й Беларусь.

Беларускі прадстаўнік, як сябра арганізацыі Амэрыканцы за Свабоду Паняволеным Народам, узяў удзел у ўрачыстасьці ды перадаў некаторым прадстаўнікам новыя весткі пра падзеі на Беларусі.

**Н.**

## *У ЧЫКАГА*

# УГОДКІ ЧАРНОБЫЛЯ

Сьвет ня можа забыцца пра жудасныя вынікі ядзернай аварыі, што здарылася летась у Чарнобылі на Украіне. Катастрофу гэтую глыбока адчула й зьнікарства сумежнае з Украінаю паўдзённае Беларусі.

Сёлета 27 красавіка ўкраінскае грамадзтва Чыкага адзначыла гэтую сумную гадавіну, на якую былі запрошаныя шмат якія нацыянальныя прадстаўніцтвы. Разам зь іншымі ўзяла ўдзел і беларуская група са сваім сьцягам і плякатам з надпісам краіны.

Увечары ў украінскай царкве Сьв. Мікалая, запоўненай вернікамі розных веравызнаньняў, адбылася багаслужба ў суслужэньні ўкраінскага каталіцкага й праваслаўнага біскупаў ды шмат духавенства. Па заканчэньні багаслужбы вернікі з запаленымі сьвечкамі сабраліся на пляцы й на вуліцы перад катэдрай. Адбыўся мітынг, на якім з прынагоднымі прамовамі выступілі кангрэсмэн Гэнры Гайд, рэспубліканец, прадстаўнік фэдэральнай ядзернай камісіі ў Чыкага; сп. Казімір Оксас, старшыня Рады Паняволеных Народаў; нядаўна прыбылая з Савецкага Саюзу паэтэса Ірына Ратушынская ды іншыя прамоўцы.

Ад Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага выступіла сп-ня Вера Рамук з кароткай прамовай, у якой зазначыла, што ўкраінскі народ ды ня ў меншай меры і народ беларускі пацярпелі моцна ў выніку чарнобыльскай ядзернай катастрофы. Прамоўца зазначыла, што нам усім трэба маліцца, каб падобныя аварыі не паўтараліся нідзе на сьвеце.

**ВІР**

## *ЛЁНІК ТАРАСЭВІЧ У ЧЫКАГА*

Ведамы малады мастак зь Беласточчыны Лёнік Тарасэвіч, разам з прадстаўнікай варшаўскай галярэі Фоксаль, наведаў 7-10 травеня сёлета Чыкага і затрымаўся ў сп-тва Рамукоў. Тарасэвіч экспанаваў свае два абразы на міжнароднай выстаўцы ў Чыкага ў галярэі Нордэнгэйк (8-12 травеня). Хоць кароткая, але была нагода пазнаёміцца з гэтым энэргічным ды абяцаючым мастаком.

Лёнік Тарасэвіч высока ацэнены мастацкім сьветам, ягоныя абразы выстаўляліся ня толькі ў Беластоку й Варшаве, але і ў Ангельшчыне, Швэцыі, Італіі. Два ягоныя абразы летась набыла адна галярэя ў гор. Мінэаполісе ў штаце Мінэсота.

Лёнік расказаў аб сваёй дзейнасьці на Беласточчыне, прыгадваў свае карыкатуры ў часапісе беларускіх студэнтаў «Сустрэчы».

Галоўная тэма абаразоў Лёніка Тарасэвіча — лес: жывы, сьсечаны, у розных сьветлаценях.

Спадзяёмся, што беларускае грамадзтва ў Чыкага будзе мець нагоду пабачыцца з мастаком Лёнікам Тарасэвічам у будучыні, бо ён казаў, што пляне прыехаць у Амэрыку ў наступным годзе на даўжэйшы час.

Жадаем Лёніку Тарасэвічу плённай працы.

**Др. В. Р.**

## ФЭСТЫВАЛЬ У НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

12-13 верасьня сёлета ў парку Свабоды (Liberty Park) у гор. Джэрзы-Сыты адбудзецца традыцыйны гадавы Фэстываль этнічных групаў. У праграме: парад сьцягоў, паказы мастацкай самадзейнасьці, выстаўкі, этнічныя стравы. Сёлета беларуская група бярэ ўдзел у фэстывалі ўжо дзясяты раз. Беларускае грамадзтва Нью-Джэрзы, Нью-Ёрку ганарыцца сваймі ўдзельнікамі ў гэтых фэстывалях, якія выдатна прадстаўляюць Беларусь на гэтым людным форуме.

## *З ЖЫЦЬЦЯ Ў КАНАДЗЕ*

### ПАПАЎНЕНЬНЕ

Таронтаўскі аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады папоўніўся маладымі беластаччанамі, што прыбылі летась у Канаду. А гэта: Павал Ягадніцкі, Аляксандар Нікановіч, Лявон Паплаўскі, Аляксандар і Кастусь Шаршуновічы, Валя Саевіч, Уладзімер Чэмель ды іншыя. Усе яны ахвотна ўлучыліся ў беларускае грамадзкае жыцьцё, бяручь актыўны ўдзел у розных імпрэзах і сьвяткаваньнях. Кіраўніцтва ЗБК і ўсе суродзічы вельмі ўсьцешаныя гэткім папаўненьнем.

### ПАМЯЦІ АЛЕСЯ ГАРУНА

27 верасьня сёлета ЗБК адзначыць 100-годзьдзе ад нараджэньня Алеся Гаруна, паэта-адраджэнца, ахвяры царскіх рэпрэсіяў і савецкіх цэнзараў. Даклад пра Алеся Гаруна прачытае сп. Кастусь Акупла.

### УГОДКІ «МУЖЫЦКАЙ ПРАЎДЫ»

29 лістапада сёлета ў Таронце адбудзецца адзначэньне 125-х угодкаў ад выхаду газэты «Мужыцкая Праўда», выданьнем якое Кастусь Каліноўскі ды ягоныя паплечнікі рыхтавалі паўстаньне 1863 году. Даклад пра «МП» прачытае др. Раіса Жук-Грышкевіч.

*(Паводля «Камунікату /хронікі/ Галоўнай Управы ЗБК за першую палову 1987 году»).*

## *ПРОСЬБА ДА ЧЫТАЧОЎ*

### Выразкі з заходняга друку

У сувязі з новай палітыкай Крамля, у заходнім друку шмат больш пішацца цяпер пра Савецкі Саюз, у тым ліку й пра Беларусь. Дзеля гэтага просім Вас, Паважаныя Чытачы, у Амэрыцы, Ангельшчыне, Аўстраліі, Аўстрыі, Бэльгіі, Гішпаніі, Італіі, Канадзе, Нямеччыне, Францыі ды ў іншых краёх прысылаць у рэдакцыю «Беларуса» выразкі з газэтаў і часапісаў, калі ў іх згадваецца Беларусь. «Беларус» падасьць да агульнага ведама аб тым, што пішацца пра нас у шырокім сьвеце.

Прысылаючы прэсавыя выразкі, Вы будзеце спрыяць лепшай паінфармаванасьці ўсіх нас.

## БРАШУРА ПРА ПАНЯВОЛЕНЫЯ НАРОДЫ

У Мэльбурне ў Аўстраліі выйшла англамоўная брашура (28. б.б.): Introducing the Captive Nations of Eastern and Central Europe (Азнаямленьне з паняволенымі народамі Ўсходняй і Цэнтральнай Эўропы). Брашуру выдала Рада Паняволеных Народаў правінцыі Вікторыя. У публікацыі каротка расказана пра гісторыю зараджэньня Руху Паняволеных Народаў, апісаныя мэты гэтага руху і зьмешчаныя геаграфічна-гістарычныя даведкі пра Баўгарцаў, Беларусаў, Чэхаў, Эстонцаў, Вугорцаў, Латышоў, Літоўцаў, Палякоў, Румынаў, Славакаў, Украінцаў. У канцы брашуры зьмешчаны статут Рады Паняволеных Народаў (датаваны 2.V.1987), у якой Беларусаў прадстаўляе Беларускі Цэнтральны Камітэт правінцыі Вікторыя.

### «СУСТРЭЧЫ» № 6, 1987

Сёлетні нумар «часапісу беларускіх студэнтаў у Польшчы» адчыняецца рысункам на вокладцы часапісу работы Лёніка Тарасэвіча: сядзіць на ведамай гравюры Францішак Скарына і кажа: «Я таксама ня вучыўся ў беларускай школе». Значыцца, можна быць, карысным свайму народу, і ў беларускую школу не хадзіўшы. Хоць, трэба тут зазначыць, Скарына то ў беларускую школу хадзіў — пачатковую асьвету ён атрымаў у сваім родным Полацку.

Зьмест нумару: Мікалай Ваўранюк — «Закон і вакол закона» (пра змаганьне ў БССР за родную мову); А. Сьцепанюк — «Вера» (верш); Юрка Ляшчынскі — «Устане, як Лазар, з руін забыцьця» (пра Алеся Гаруна); Яўген Вапа — вершы; інтэрв'ю Валянтына Сельвесюка з Аляксандрай Бэргман; Ірэна Аляксеюк — «Вытокі гісторыі Бельска»; Андрэй Сьцепанюк — «Кантрасты» (пра цяжкасьці беларускага грамадзкага жыцьця ў ПНР); рэпліка ўкраінскай газэце «Наше Слово» пра Падляшша; ілюстраваная хроніка. Часапіс чытаецца зь цікавасьцяй.

### *ПРАДАЕЦЦА БелСЭ*

Прадаецца ў добрым стане 12-томавая Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя. Цана — 250 ам. даляраў. Зварачацца трэба на адрас газэты «Беларус».

# ГРОДЗЕНСКІ ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

*(Заканчэньне; пачатак у № 337)*

На пачатку школьнага 1910-1911 году было прынята шмат новых сяброў, моладзі зь першых школьных клясаў. Гурток падзяліўся на тры сэкцыі: старэйшая, сярэдняя й малодшая. У кожнай была свая праграма самаасьветы й асьветы ў беларускай мове. Вывучалі літаратуру, гісторыю й геаграфію Беларусі.

На спэктакль на гэты год выбралі камэдыю Каруся Каганца «Модны шляхцюк». Рэквізыт на грыміроўкі купілі, а касьцюмы на сцэну, арыгінальную вясковую вопратку сяброўка Сівіцкая дастала ад жанчын зь вёскі Бяляны, дзе яна мела добрых знаёмых. Піша яна, што жанчыны далі ёй да выбару нават са старых бабуліных скрыняў аўтэнтычныя вясковыя рэчы, мужчынскія й жаночыя, уключна з ботамі й чаравікамі. Пазычанае вопраткі два вялікія мяхі, пару дзён перад спэктаклем, колькі старэйшых сяброў прывезьлі ў Гродна на Гараднічанскую вуліцу, дзе ў вялікім пакоі была збудаваная сцэна, нават з суфлёрскаю будкаю.

У сярэдзіне лютага быў дадзены спэктакль, які, як я ўжо ўспамінаў раней, быў мой першы «тэатр» і на які быў запрошаны зь Вільні Іван Луцкевіч, і ён пасьля ў «Нашай Ніве» (№ 9, 1911 г.) пісаў: «Я дзіваваўся, гледзячы на артыстаў, як яны ўмелі падглядзець, падсьцерагчы характар вясковых сватаньняў, умелі наладзіць усё так, як яно папраўдзе бывае ў хаце Беларусаў. Вынес я падзяку за прыемны вечар. Веру, што гродзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад».

Спэктакль быў дадзены два разы ў Гродне, а пасьля ў Дубніцы ў паўночна-ўсходняй Сакольшчыне. Вечарына ўдалася вельмі добра. Сялянаў з суседніх вёсак прыйшло шмат, але цяжка было зьмясьціцца ў вялікім пакоі. Шмат хто зь іх першы раз пачуў, што яны — Беларусы і пабачыў тэатр у роднай мове. Задаваленьне было вялікае. Але гэтая падзея ледзь ня скончылася вельмі сумна для гуртка ды асабліва для некаторых сяброў.

Арандатар Дубніцы, якая была собскасьцю гродзенскага архірэя, даў ахвотна пакой і параіў папрасіць дошак на сцэну ў манаха з суседняга архірэйскага фальварку Малой Дубніцы. Манах таксама ахвотна дошак даў, але пры нагодзе пахваліўся архірэю, што ў Дубніцу прыехаў тэатр. Архірэй — да губэрнатара: «Хто даў дазвол?» Губэрнатар-жа нічога ня ведаў, сказаў, каб справу дасьледавала паліцыя ў Новым Двары й на станцыі Бяляны. Там было ўстаноўлена, што прыяжджала моладзь з Гродна, былі ўстаноўленыя прозьвішчы двух сяброў, што паходзілі спад Новага Двара. Гурток-жа быў арганізацыяй нелегальнай і мог падпасьці пад сьледзтва, а сябры, чые прозьвішчы сталіся ведамыя (вучні апошніх клясаў), маглі быць выкінутыя са школы. На шчасьце, у канцылярыі губэрнатара працаваў бацька аднае зь сябровак гуртка, і ён пастараўся, каб «дзела» загінула.

Увесну 1911 году па скончанай навуцы разьвітаўся з гуртком ягоны арганізатар і першы старшыня Адам Бычкоўскі.

Няспрыяльныя для гуртка нутраныя й вонкавыя абставіны склаліся ў школьным годзе 1911-12-м. *Унутры* адбыліся няўдалыя выбары. За старшыню выбралі Казюка Калышку, мала энэргічнага, пасыўнага чалавека, а за сакратара — С. Більміна, які ня думаў, каб памагчы, а стараўся пашкодзіць. Калі ён адыйшоў у наступным годзе, выявілася, што зьнішчыў усе пратаколы паседжаньняў, як ужо было сказана раней. *Звонку* пачаўся націск з боку вышэйшых касьцельных уладаў на кс. Грынкевіча, каб ён адыйшоў ад кіраўніцтва ГГБМ і наагул ад беларускіх справаў.

Незважаючы на гэтыя няўдачы, работа ў гуртку пры помачы лепшых старэйшых сяброў працягвалася. Адбываліся лекцыі для сяброў малодшае й сярэдняе сэкцыяў гуртка. Нават увосені малодшыя сябры паставілі п'есу «Пастушка» (перапрацоўка з польскае Л. Сівіцкай), але старэйшым сябром спэктаклю не ўдалося даць. Праектавалася паказаць «Зімовым вечарам» Э. Ажэшка, пачаліся рэпэтыцыі, але дзеля малое падтрымкі з боку кіраўніцтва гуртка праект ня ўдаўся. Пастанавілі зарганізаваць каляднуцю ёлку для дзяцей у якой-небудзь вёсцы. Выбралі вёску Серуцеўцы на Сакольшчыне, паразумеліся з гаспадаром, які меў большую хату, зрабілі складчыну, купілі цукерак, пернікаў, арэхаў, яблыкаў і сьвечак. Нарабілі цацак на ёлку ды, узяўшы з сабою шмат газэтаў, календароў і кніжак, паехалі ў Бяляны, а адтуль пехатой вёрстаў сем — у Серуцеўцы.

Гаспадар хаты ўжо прыгатаваў прыгожую ёлку. Прыбралі дзераўца, запалілі сьвечкі. Дзяцей і дарослых прыйшло поўная хата. Дзецям раздалі цукеркі, а дарослым — газэты й кніжкі, ды ўсе яны разам першы раз пабачылі, як Захад абходзіць калядныя сьвяты. Назад на станцыю гаспадар адвёз нас санямі.

На пачатку наступнага школьнага году (1912-13) ізноў спаткала гурток няўдача: колькі малодшых сяброў пакінула гурток на жаданьне бацькоў.

У 1912 годзе Расея абходзіла юбілей «Отечественной Войны», перамогі над Напалеонам. У сувязі з гэтым паўстала ў Расейцаў шмат новых ідэяў. Прыкладам, перайменавалі гродзенскую гімназію із звычайнае ў гімназію імя графа Тормазава. Адна з новых ідэяў была знаходка каталікоў-Беларусаў, якіх можна русыфікаваць. Да таго часу расейскі ўрад усіх каталікоў уважаў за Палякоў і пазваляў вучыць у школах рэлігію папольску. Але ў 1912 годзе нехта, відавочна ў Віленскай навучальнай акрузе, пабачыўшы беларускі адраджэнскі рух, у якім брала ўдзел шмат каталікоў, дадумаўся да спосабу выдзяліць іх, каб русыфікаваць.

Вярнуўшыся зь летніх вакацыяў, мы знайшлі сьпіс прозьвішчаў, каля 30 асобаў, і загад, што ня можам хадзіць на лекцыі рэлігіі ў польскай мове (старэйшых клясаў не чапалі, а з 360 вучняў прыгатавальнае й чатырох малодшых набралі іх каля 30). Гімназіяльны капэлян, Паляк, выкарыстаў сытуацыю й застрашыў бацькоў некаторых сяброў гуртка, што небясьпечна палежаць да яго, і яны зажадалі выпісацца.

Я асабіста таксама быў на сьпісе Беларусаў, але мае бацькі ведалі, што я маю добрага апякуна (я жыў з А. Зянюком, які быў старшынём гуртка) і не праймаліся; прытым кс. Халецкаму не ўдалося пагаварыць з маймі бацькамі.

Незважаючы на ўсе няўдачы, работа гуртка працягвалася, бо група старэйшых сяброў падтрымвала энтузіязм першых арганізатараў. У 1912-13-м школьным годзе далі спэктакль — ставілі «Міхалку» і «Варажбу цыганкі» (перапрацоўка з польскае Л. Сівіцкай). Праектаваная выстаўка хатніх вырабаў ня зьдзейсьнілася — можа таму, што гурток быў арганізацыяй нелегальнай і дазвол на выстаўку мусіла-б прасіць арганізацыя залегалізаваная, якіх у Гродне ня было.

Затое ўвесну 1913 году гурток паставіў выдаць аднаднёўку. Вось што піша Зоська Верас:

«Рэдакцыйная калегія, у склад якой уваходзілі А. Зянюк, Я. Лявіцкі, Л. Сівіцкая, Ж. Бобрык і Ф. Лабенец, працавала шчыра і заўзята. Я. Лявіцкі (псэўданім «Юрка Снапко») даў некалькі сваіх вершаў. А. Зянюк і М. Бобрык — апавяданьні. Адно апавяданьне апрацаваў Ф. Лабенец, а я напісала перадавіцу. Пазычылі шапірограф і позна ўвечары, завесіўшы вокны, узяліся за работу. А. Зянюк перапісваў (ён прыгожа пісаў), а Я. Лявіцкі адбіваў. Прасядзелі амаль да раніцы, адбілі 50 экзэмпляраў. Назва аднаднёўкі — 'Колас беларускай нівы'. На вокладцы — загаловак і рысунак каласоў.

«Якая радасьць, можна сказаць, шчасьце запанавала ў сэрцах ініцыятараў і рэдактароў, калі ўгледзелі рэзультат сваёй працы. Зьдзейсьнены праект, вылітыя на паперу думкі ажывілі ўсіх нас, дадалі веры ў свае сілы».

Я добра памятаю аднаднёўку. Дастаў пару экзэмпляраў, едучы на вакацыі. Адзін перахоўваў даўжэйшы час і ўжо падчас вайны чытаў зь яго на вуліцы, на калодах сваім вясковым хлапцом апавяданьні. Ня думаю, што цяпер па 64-х гадох існуе хоць адзін экзэмпляр дзе-небудзь. Хоць бываюць і неспадзеўкі.

У адным зь лістоў з сакавіка 1986 г. Л. Война пішa: «Ізноў нечакана павеяла старым гурткоўскімі духам». Адзін зь менскіх пісьменьнікаў, будучы ў Ленінградзе ў нейкіх архівах, натрапіў на кніжку, том працаў Карскага, на якой напісаны верш Зоські Верас і стаяць даравальныя подпісы ад сяброў гуртка для першага старшыні Адама Бычкоўскага. Неяк сталася, што Бычкоўскі па скончаным унівэрсытэце не забраў кніжкі, а пакінуў яе ў Пецярбурзе.

Была ўжо вайна. Увесну 1913 году амаль уся дзейная група старэйшых пакідае Гродна па скончаных школах, а ўвосені выяжджае ў Варшаву Л. Сівіцкая. Астаецца зь нямногіх старэйшых А. Зянюк, які быў старшынём гуртка. Быўшы карэпэтытэрам для чатырох пляменьнікаў францішканскага пробашча ды рыхтаваўшы сябе да матуры, ня шмат часу меў ён для гуртка. Я жыў зь ім у адным пакоі і памятаю, як ён часта наракаў, што некаторыя сябры ня хочуць прысьвяціць больш часу для гуртка. Праграма лекцыяў адбывалася, але радчэй чымся гэта было раней. Вечарыны-спэктаклю апошнім школьным годам ня было.

Увесну 1914 году моладзь разьехалася на летнія вакацыі, каб больш не вярнуцца. Пачалася вайна і гурток скончыў сваё існаваньне, стаўся ахвярай Першай сусьветнай вайны. Бібліятэка, уся канцылярыя, запіскі й тэатральны рэквізыт загінулі падчас ваенных падзеяў.

**Балеслаў Грабінскі**

## У БЭЛЭР-МЕНСКУ

### ДЗЕНЬ ЖАЎНЕРА

Рэлігійна-адпачынкавы цэнтар Бэлэр-Менск пачаў свой летні сэзон 1987 году зь вікэнду 4 ліпеня.

5 ліпеня адбудзецца традыцыйны «Дзень Беларускага Жаўнера». Літургію і малебен за Беларускі Народ адслужыў настаяцель беларускага праваслаўнага прыходу імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд-Гіле а. Усевалад Шэмеціла, хорам кіраваў рэгент Сымон Жамойда. Пасьля вэтэраны дзяліліся сваімі ўспамінамі.

### СПАРТОВАЯ СУСТРЭЧА

1 жніўня адбылася 23-я Спартовая Сустрэча Беларуска-Амэрыканскай Моладзі. Былі праведзены спаборніцтвы ў валейболе й лёгкай алтэтыцы. Сёлетнія лёгкаатлетычныя спаборніцтвы прайшлі вельмі ўдала як з увагі на колькасьць удзельнікаў, так і ўмелага кіраўніцтва судзьдзяў: Ігара Мухі, Віталя Цярпіцкага й Джона Трылера.

Брали ўдзел чатыры валейбольныя дружыны: Саўт-Рывэр, Кліўленд, Нью-Ёрк і, як госьць, польская дружына. Пасьля вельмі цікавых гульняў першае месца заняў саўт-рывэрцы, другое — Кліўленд. Судзьдзямі былі: Грыгор Арцюшэнка, Віктар Страпко ды Юрка Арцюшэнка. Увечары, падчас вечарыны, былі выбраныя на міс Бэлэр-Менск Хрыстына Дэ Роза, на міс Спорт — Хрыстына Гернат, адбылася раздача ўзнагародаў пераможцам у спартовых змаганьнях.

### ГАДАВЫ КАНЦЭРТ

8 жніўня адбыўся другі гадавы канцэрт пад кіраўніцтвам артысткі Ірэны Цупрык. На гэты раз сп-ня І. Цупрык напісала адмысловы жартаўлівы скэч пад назовам «Галоснасьць», дзея якога адбываецца на Беларусі ў часе паседжаньня сяброў калгаснае ўправы «Чырвоны Шворан». У паказе ўзялі ўдзел: Ірэна Цупрык, Віла Леўчук, Поля Клінцэвіч, Стася Сумская, Сяргей Рагалевіч і Міхась Сенька.

Сп-ня Віла Леўчук прадэклямавала свой верш пра Бэлэр-Менск.

У далейшай праграме на сцэне былі салёвыя сьпевы й танцы, а таксама груповыя танцы. Сп-ня І. Цупрык прадэклямавала, як заўсёды, з глыбокім пачуцьцём, верш Алеся Бачылы «Ня сьпетая песьня».

### ПІКНІК

У нядзелю 9 жніўня адбыўся фэст — сьвяткаваньне Дня Смаленскае Іконы Божае Маці. Літургію й малебен адслужыў а. У. Шэмеціла, хорам кіраваў сп. В. Цярпіцкі. Пасьля адбыўся міжпарафіяльны пікнік.

## ДАМАГАЮЦЦА ВЫДАЧЫ У. КАРЦЮКА

Як падаў зь Менску 19-га жнівеня сёлета карэспандэнт ТАССу, «грамадзкасьць савецкай Беларусі» дамагаецца ад уладаў Канады выдачы Уладзімера Карцюка, які, быццам-бы, «хаваецца ў гэтай краіне ад справядлівага пакараньня» за ягоны ўдзел у карнай апэрацыі «Герман», якую правадзілі гітлераўцы ў жнівені 1943 году. Месца акцыі не називанае. Прозьвішча Карцюка часта называлася на праведзеным нядаўна ў Менску судовым працэсе. Аднак, як заяўляе ТАСС, «на дамаганьне прыцягнуць Карцюка да адказнасьці канадзкія ўлады дасюль не адказалі». Суд у Менску, паводле таго-ж паведамленьня, назваў «прозьвішчы іншых злачынцаў, што знайшлі прытулак, апрача Канады, у ЗША, Францыі ды іншых капіталістычных краінах».

## СТУДЭНТКА ТАНЯ ЗАМОРСКАЯ



Старэйшая дачка сп-тва Мікалая й Веры Заморскіх, 18-гадовая Таня, скончыла сёлета Мангасэтскую сярэднюю школу й прынятая на далейшую навуку ў Барнардзкі Каледж (дзявоцкі), які становіць частку Калюмбійскага Ўнівэрсытэту ў гор. Нью-Ёрку.

На працягу ўсіх гадоў сярэдняе школы Таня займалася спортам, галоўна плаваньнем, здабыла шмат узнагародаў у цэлым радзе мясцовых і рэгіянальных спаборніцтваў, у тым ліку залатыя й сярэбраныя мэдалі штату Нью-Ёрк. Таня наважаная не пакідаць плаваньня і ў будучыні. Зычым Тані Заморскай далейшых удачаў як у галіне акадэмічнай, гэтак і спартовай.

## ВЫВУЧЭНЬНЕ ПАРТЫЙНАЕ ЭЛІТЫ БССР

23 чэрвеня сёлета, зь ініцыятывы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, у Гарадзкім Унівэрсытэце Нью-Ёрку адбылася лекцыя прафэсара Майкела Урбана з Аўбурнскага Ўнівэрсытэту ў штаце Алябама на тэму «Стратыфікацыя й рухомасьць эліты Камуністычнае партыі БССР». Праф. Урбан падзяліўся вынікамі свайго дасьледаваньня эліты кампартыі Савецкай Беларусі ў пэрыядзе да пачатку 1960-х гадоў і да цяперашняга часу.

Асноўная мэта дасьледваньняў — гэта аналіз пасоўваньня па службовай драбіне камуністычных кадраў БССР ды аналіз складу ЦК КПБ. Прафэсар Урбан тымчасам, на аснове папярэдняга вывучэньня праблемы, устанавіў, што кіраўнічая эліта Савецкай Беларусі аднаўляецца ня ў выніку ўстаноўленага парадку, а хутчэй дзякуючы акалічнасьцям або й проста выпадку. Як падкрэсьліў аднак праф. Майкл Урбан, ягоны аналіз пакуль што не закончаны й канчальныя высновы могуць быць інакшыя.

У часапісе Soviet Studies (красавік 1987 г.), што выдаецца ў Вялікабрытаніі ў гор. Глязгаве, зьмешчаны артыкул пра фармаваньне вышэйшай эліты Камуністычнае партыі СССР ды шляхі вылучэньня партыйных лідэраў. Дасьледнік Джон Ўіллертан Малодшы вылучае ў працэсе станаўленьня вышэйшае эліты КПСС у пэрыядзе ад 1960-х да канца 1970-х гадоў некалькі відавочных партыйных «груповак», як прыкладам групоўка Днепрапятроўская з Брэжневам на чале, групоўка маскоўская, харкаўская, групоўка Суслава-Панамарова ды групоўка «беларуская» на чале зь Кірылам Мазуравам, Пётрам Машэравам, Міхалам Зімянінам. Беларуская партыйная групоўка, піша дасьледнік, стварылася ў гадох вайны, калі амаль усе выдатнейшыя беларускія партыйныя кіраўнікі былі ў партызанскім руху.

На агульнасаюзную арэну беларускія партыйныя дзеячы пачалі прасоўвацца ў 60-х гадох. Для Беларусаў гэта было бадай новай зьявай, бо ў перадваенным пэрыядзе беларускае партыйнае групоўкі ня было, як была, прыкладам, харкаўская.

Джон Ўіллертан прасочвае ў сваім аналізе сувязі беларускай партыйнай групы ды коратка спыняецца на тым, як фармуецца партыйная эліта цяпер пры Гарбачове.

## ЛІСТ 134-Х ДА ГАРБАЧОВА

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі выдала асобным сшыткам (№ 2) другі ліст абаронцаў беларускае мовы да Генэральнага Сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова. Ліст датаваны 4 чэрвеня 1987 году. Яго падпісалі 134 асобы, прадстаўнікі розных прафэсійных і сацыяльных групаў беларускага грамадзтва: 28 літаратараў, 28 пэдагогаў (галоўна выкладчыкі ВНУ), 20 навукоўцаў, 16 рабочых, 9 актораў, 9 кампазытараў, 7 мастакоў, 6 адміністратараў, 6 інжынераў, 2 архітэктары, журналіст, бухгальтар і афіцыянт.

Да тэксту ліста выдаўцы дадалі ўрывак з прамовы на нядаўным партыйным пленуме ў Менску першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова (цьверджаньні якога аўтары ліста аспрэчваюць) ды статыстыку некаторых беларускамоўных і расейскамоўных выданьняў у БССР на довад дыскрымінацыі беларускае мовы.

### *ДУХОЎНАМУ БРАТУ ПЯТРА І*

*Нязломнай волі, шчырага натхненьня*
*Пятрову брату, што да нас прышоў.*
*І памятай: на ніве абнаўленьня*
*Абапірайся — не на халуёў.*

*І не на шэрасьць. Бо ў сваіх скляпеньнях*
*Змарнуе ўсё, што ад сьвятла.*
*Ёй ненавісны талент і сумленьне,*
*Ёй ненавісна і твая мятла.*

*На тых вярней за ўсё абапірайся,*
*Чый дух лунае ў вогнішчы вякоў,*
*Чыя душа — скрозь катаржная праца...*
*Абапірайся — на ерэтыкоў!..*

*На тых, хто — «супраць». Стойкаў зацятых.*
*Нашчадкаў праўды церняў і цьвікоў,*
*Стагодзьдзяў даўніх і гадоў трыццатых...*
*За соль зямлі трымайся, брат Пятроў!..*

(Верш гэты ўзяты з адкрытага ліста Алега Бембеля да М. Гарбачова. Гл. «Лісты да Гарбачова», выд. другое, зь перакладам на ангельскую мову. Лёндан, 1987, б. 18)

# ЛІСТ 134-Х ДА ГАРБАЧОВА

*(Заканчэньне з 4-й б.)*

Мы пэўныя, што русыфікацыя Беларусі, праводжаная бюракратычным апаратам, і зьнішчэньне беларускае мовы ня можа ня выклікаць у расейскага народу пачуцьця сораму й пратэсту.

«Ніхто нікому ня ўказвае, на якой мове зьвяртацца да таварышаў, выступаць з трыбуны. Ніхто нікому ня ўказвае, на якой мове пісаць вершы і раманы», — кажацца ў дакладзе. Да якога-ж стану трэба давесьці гэтае пытаньне, каб лідэр кампартыі сувэрэннай рэспублікі мог дазволіць сабе падобныя выказваньні? Ня ўказваць трэба, а ствараць рэальныя ўмовы для свабоднага і ўсебаковага разьвіцьця нацыянальнай мовы, канечна патрэбная дзяржаўная руплівасьць аб роднай мове, падмацаваная адпаведнымі заканадаўнымі актамі ды гарантыя іхнага практычнага ўжыцьцёўленьня.

Наверх на ўсё выразным анахранізмам прагучэла ў дакладзе т. Я. Я. Сакалова прыхаваная пагроза: «Хто памыляецца ў гэтых пытаньнях, яму трэба дапамагчы разабрацца. Хто хацеў-бы драматызаваць іх, павінен ведаць, што гэта не на карысьць перабудове, справе выхаваньня». Гэткім чынам, выяўленьне й асэнсаваньне прадстаўнікамі грамадзтва драматычнага палажэньня, у якім апынулася беларуская мова і ў цэлым нацыянальная культура, як выяўляецца, на думку дакладчыка, не на карысьць перабудове!

У Беларускай ССР цяперашняе пакаленьне дастала ў спадчыну груз фатальных для нацыянальнай культуры памылак мінулага — гэта перш-наперш валюнтарысцкае выгнаньне роднае мовы з вышэйшае школы, з партыйнага й дзяржаўнага жыцьця і, як вынік гэтага, — катастрафальнае звужэньне сфэры ейнага ўжытку, які, прыкладам, у дачыненьні да жывое гутаркі мяжуе з поўным зьнікненьнем.

Як-жа можа сёньня моладзь успрыняць духовае багацьце свайго народу, калі яна пазбаўленая магчымасьці ведаць родную мову? Гэткім чынам, гутарка йдзе ня толькі аб страце роднае мовы. Гутарка йдзе аб страце вялізарнага духовага набытку нацыі. Гэта-ж факт, што так званая масавая культура пачала запаўняць пусьціню, што вытварылася ў выніку ігнараваньня культуры народнае.

Сёньня ў дагоду людзям з касмапалітычнымі настроямі прыносяцца ў ахвяру карэнныя інтарэсы народу, які пранёс праз стагодзьдзі нягодаў і пазбаўленьняў сваю багатую мову, сваю самабытную культуру, свой голас у славянскім сьвеце і цяпер стаіць на мяжы зьнікненьня як нацыянальны гістарычны арганізм.

Далейшае ігнараваньне надзённых патрэбаў у разьвіцьці нацыянальнае мовы й культуры мае ў сабе паважныя вынікі як для самое культуры, гэтак і для справы інтэрнацыяналізму ў нашай краіне. Гэткую палітыку партыйнага кіраўніцтва рэспублікі нельга не расцэньваць інакш, як недальнябачную і супярэчную прагаме КПСС, у якой абвяшчаецца росквіт нацыянальных культураў, свабоднае разьвіцьцё і раўнапраўнае выкарыстаньне родных моваў.

Мы не сумляёмся, што ў змаганьні зь бюракратыяй найважнейшая зброя — гэта разьвіцьцё дэмакратыі, безь якое немагчыма само існаваньне сацыялізму. Але ў разьвіцьці дэмакратыі адно з важнейшых пытаньняў у нашай шматнацыянальнай краіне — гэта рэальнае, гарантаванае забясьпечаньне (забясьпечаньне не на словах, а на справе) свабоднага і ўсебаковага разьвіцьця нацыянальнага: нацыянальных культураў і перш-наперш нацыянальных моваў. Толькі з разьвязаньнем гэтай праблемы дэмакратызацыя савецкага грамадзтва можа шпарка пайсьці наперад, дасьць прыплыў сьвежых сілаў, энтузіязму, даверу й прыязьні між народамі, прыклады жывога гуманістычнага, а не бюракратычнага папяровага інтэрнацыяналізму. Бяз глыбокага, усебаковага разьвіцьця нацыянальнага пытаньня, бяз сумленнага, пасьлядоўнага змаганьня ня толькі з выявам нацыянальнага эгаізму, але й зь вялікадзяржаўным шавінізмам ува ўсіх ягоных выявах працэс запраўднай дэмакратызацыі не да падуманьня.

Аднак, нажаль, некаторыя адказныя працаўнікі рэспубліканскага дзяржаўнага й партыйнага апарату паранейшаму адвольна тлумачаць і выкрыўляюць ленінскую нацыянальную палітыку, вяршаць справы з пазыцыяў учарашняга дня. Яны гавораць аб перабудове, а ў існасьці баяцца яе. Робіцца спроба прыглушыць грамадзкую думку, пакінуць усё, як было.

Замоўчваньне й падтасоўваньне фактаў, адвольнае маніпуляваньне фразай, адкрытае ігнараваньне насьпелых праблемаў — усё гэта ня можа ня выклікаць у душы кожнага з нас пачуцьця пратэсту й абурэньня. Нельга зводзіць палітыку ў нацыянальным пытаньні да дэмагогіі, пара навучыцца гаварыць зь людзьмі сумленна й адкрыта, а не пачыноўніцку.

Мы пераканаными, што толькі станаўкімі, комплекснымі захадамі прынцыповага характару можа быць дасягнута карэннае палепшаньне стану нацыянальнай мовы ў рэспубліцы, і поўнасьцяй падтрымваем прапановы ў гэтым пытаньні, выкладзеныя ў лісьце на Ваша імя ад 15.12.1986 году. Нагадаем існасьць асноўных зь іх: увод беларускай мовы ў якасьці працоўнае ў партыйныя, дзяржаўныя й савецкія органы рэспублікі; арганізацыя вышэйшай адукацыі ў роднай мове; забясьпечаньне беларускамоўнай (прапарцыянальна да нацыянальнага складу жыхарства) сярэдняй адукацыі й школьнага ўзгадаваньня.

Быць ці ня быць беларускай мове ў беларускай нацыянальнай культуры — вось пытаньне, на якое сёньня трэба адказаць. Мы кажам — быць! І ў служэньні гэтай справе мы бачым свой грамадзянскі абавязак, бачым сэнс свае грамадзкае й культурнае дзейнасьці.

Паважаны Міхаіл Сяргеевіч! Вышэйзгаданы ліст прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, прысланы Вам раней, у існасьці ня выклікаў дзеяньня. Паасобныя захады, якія прадпрыймаюцца, або назначваюцца, носяць ня прынцыповы, а глыбока прыватны, «паявярхоўна-касмэтычны» характар. Высновы камісіі ЦК КПСС, што працавала па гэтым лісьце, ня былі апублікаваныя і нават, як мы ведаем, не даведзеныя да ведама аўтараў ліста. Ня будзе карысьці, калі й гэты ліст пойдзе папярэднімі каналамі — шляхам высьвятленьня на ўзроўні рэспубліканскага партыйнага апарату, які, мяркуючы з усяго, ня выявіў шчырага зацікаўленьня ў справядлівым разьвязаньні ўзьнятага пытаньня.

Падзеі апошніх часоў наводзяць на думку, што Вы ня былі асабіста азнаёмленыя са зьместам папярэдняга звароту да Вас (ад 15 сьнежня 1986 году). Гэта змушае нас ужыць форму адкрытага ліста. Зварачаемся да Вас з станаўкой просьбай аддаць наш ліст на шырокую публічнасьць, паспрыяць апублікаваньню яго на старонках «Праўды». Мы просім падтрыманьня ад усяго савецкага народу.

Із шчырай пашанай

г. Менск
4 чэрвеня 1987 г.

*(134 подпісы)*

# АЙЦЕЦ ЁСІП РЫНКЕВІЧ: 29 ГОД НЯВОЛІ

Зь Беларусі на Захад трапіла пісьмовае сьветчаньне пра 61-гадовага праваслаўнага сьвятара, ураджэнца Іванаўскага раёну Берасьцейскае вобласьці, а. Ёсіпа Рынкевіча, які правёў у зьняволеньні 29 гадоў. Да пачатку перасьледаваньня яго а. Рынкевіч, па сканчэньні ў 1955 г. Жыровіцкай сэмінарыі і І-га курсу Маскоўскай Духоўнай Акадэміі, быў на прыходзе ў в. Малешаў каля гор. Хойнікі. Перасьледы яго пачаліся недзе ў 1958 годзе.

«Па сканчэньні шостага тэрміну зьняволеньня, якое праходзіла ў Тураўскім раёне Гомельскай вобласьці, — кажацца ў сьветчаньні, напісаным «са словаў духоўных дзяцей» а. Рынкевіча, — а. Ёсіп на працягу пяцёх год жыў у дупле дубу, зь якога выходзіў да прыяцеляў толькі ў вялікія маразы пагрэцца. Па сканчэньні тэрміну прапіскі а. Ёсіп патаёмна прыехаў на свой прыход. Пад домам псаломшчыцы Мрарыі ён выкапаў сабе патаёмную кельлю, у якой праводзіў час у посьце й малітве. Спаць даводзілася на дошцы, бо дно выкапанае ім ямы залівала вада... Гэтак ён жыў каля 6 гадоў. На Вялікдзень 1973 году ён і псаломшчыца былі арыштаваныя на данос суседзяў.».

Сьветчаньне пра а. Ёсіпа Рынкевіча было напісанае недзе ўлетку 1987 году. «Цяпер, — кажацца ў ім далей, — а. Ёсіпа трымаюць ў Магілеўскім спэцыяльным псыхіятрычным шпіталі. Здароўе ягонае абсалютна падарванае. Ён правёў у зьняволеньні 29 гадоў, на працягу якіх улады не пераставалі зьдзекавацца над ім, ...абвінавачваючы а. Ёсіпа ў належаньні да Запраўдные праваслаўнае царквы (катакомбавае царквы)».

*(Гл. выдаваньня радыястанцыяй «Свабода» «Материалы Самиздата», № 27, 10.VIII.1987, АС № 6035).*

# СЬВ. † ПАМ. КАСТУСЬ ГЛІНСКІ і ВЭРОНІКА ГЛІНСКАЯ

Кастусь Глінскі быў прадстаўніком Беларускай Цэнтральнай Рады й Беларускага Вызвольнага Фронту на Вялікую Брытанію. Нарадзіўся на Дзісьненшчыне, памёр 14 чэрвеня 1987 г. ў Лёндане на 81-м годзе жыцьця, пакінуўшы жонку Вэроніку, якая памерла тыднем пазьней — 21 чэрвеня. Вечная памяць.

**А.Здановіч**

# СТРАТА ПРЫЯЦЕЛЯ

**Сьветлай памяці Джэром Т. Балэр**

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью-Джэрзы страціла свайго прыяцеля Джэрома Т. Балэра, каманьдзера Вэтэранскага Згуртаваньня Рарытанскай Даліны.

Балэр нарадзіўся ў 1915 годзе ў Бронксе, раёне гор. Нью-Ёрку, але шмат гадоў жыў у Нью-Брансьвіку, а пасьля ў Сомэрсэце ў Нью-Джэрзы. Бацькі ягоныя паходзілі з Чарнігаўшчыны, паходжаньня ён быў гэбрэйскага.

Джэры Балэр 17 год быў кіраўніком арганізацыі амэрыканскіх вэтэранаў. Быў ён шчырым прыяцелям і беларускіх вэтэранаў і ў прыватных гутарках заўсёды зазначаў, што і ён «паходзіць адтуль», бо ён — «сын старога Балэра».

Джэры Балэр быў ня толькі каманьдзерам вэтэранаў, але й паэтам ды кампазытарам, аўтарам колькіх папулярных песьняў.

Пры розных нагодах Нябожчык, разам із сваймі сябрамі, жыдоўскімі вэтэранамі, быў на беларускіх ўрачыстасьцях: на адзначэньні 25-х угодкаў мабілізацыі ў БКА, на высьвячэньні помніка Беларускім Гэроям у Іст-Брансьвіку ды на 68-х угодках Акту 25 Сакавіка ў Нью-Брансьвіку.

Дэлегаты Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў на чале з маёрам Сяргеем Гутырчыкам і лейтэнантам Пётрам Кажурам аддалі апошні салют каманьдзеру Джэры Балэру 22 чэрвеня 1987 году.

**Сяргей Пчала**

## КАНВЭРТЫ ДА ЮБІЛЕЮ

**(З папраўкай адрасу)**

Таронцкая парафія БАПЦ, адзначаючы 1000-годзьдзе беларускага хрысьціянства, выдала канвэрты з эмблемай, якую апрацавала наша выдатная мастачка Тамара Стагановіч-Кольба. Парафіяльная рада складае мастачцы падзяку за гэту выдатную працу.

Канвэрты ў двух разьмерах — бюровым і звычайным — з чырвоным надрукам эмблемы, іх трэба замаўляць у колькасьці ня меншай за 20 штук (цана за 20: тры даляры, разам зь перасылкай). Цана пры закупе большай колькасьці — 10 цэнтаў за канвэрт з тым, што перасылку аплачвае пакупнік.

*Замоўленьні слаць на адрас:*
Byelorussian Church Parish
of St. Kiryla of Turau
524 St. Clarens Ave.
Toronto, Ont. M6H 3W7
CANADA

## *НА ДАПАМОГУ БЕЛАРУСАМ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ*

У ліпені-жнівені сёлета было сабрана на дапамогу суродзічам у Беласточчыне грошай ад наступных асобаў:

| | |
|---|---|
| 1. Г. Дарашэвіч-Тэдон | ам дал.100 |
| 2. В. Бартуль | 100 |
| 3. А. Орса-Рамана | 100 |
| 4. В. Заморская | 25 |
| 5. М. Заморскі | 40 |
| 6. Аня Бартуль | 20 |
| 7. Павал Рамана | 10 |
| | Усяго 395 |

За гэтыя грошы было выслана чатыры пачкі з вопраткай і харчамі ды пяць грашовых дапамогаў.

Выдаткі: перасылка пачак 101,15 дал., харчы — 53 дал., грашовая дапамога — 136 дал. — усяго 290,15 дал. Засталося 104,85 дал.

У чаканьні на далейшую дапамогу з пашанай —

**Ю. Андрусышына, А. Орса-Рамана, Вера Бартуль**

## ПАДЗЯКА

Гэтым шляхам складаем шчырую падзяку Беларускаму грамадзтву ў вольным сьвеце за выказаньне пашаны да нашага мужа, брата і дзядзькі сьв. пам. Міколы Сьвідэрскага ды за цёплыя спачуваньні ў нашым горы. Ад шчырага сэрца дзякуем сваяку Кастусю Акулу за паніхіду, адслужаную ў Таронцье з удзелам Першагіерарха БАПЦ Архіеп. Мікалая, ды Пралату Аляксандру Надсону за малітвы на просьбу сп-тва Махначоў з Чыкага.

Вельмі дзякуем усім беларускім прыяцелям і знаёмым, што прыслалі кветкі і сваёй прысутнасьцяй на паніхідах і паховінах аддалі апошнюю пашану Памерламу.

Асаблівую падзяку выказваем сп. Міхасю Лужынскаму за прачулыя словы падчас жалобнага абеду ды сп. Кастусю Акулу за нэкралёг у часапісе «Зважай».

Няхай Усявышні Вас усіх за гэта ўзнагародзіць.

Сям'я сьв. пам. Міколы Сьвідэрскага:
**Жонка Галя**
**Сястра Оля Качан**
**Пляменьнік Юрка Качан зь сям'ёй**

## *КНІГА ПРА ДЭФІЦЫТ КАХАНЬНЯ*

*Або: нараканьні жонак на мужыкоў і наадварот*

Беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч свае кніжкі й артыкулы піша мэтадам апытваньня людзей. Вынікі ў яе выдатныя. Пра каго-б Алексіевіч ні пісала, спад пяра пісьменьніцы выходзіць густая, напоўненая фактамі проза.

Новая кніга С. Алексіевіч будзе пра мужчынаў і жанчынаў ды будзе складацца із споведзі, дакладней — з нараканьняў адных на другіх. У інтэрвію газэце «Зьвязда» (8.III.87) Алексіевіч дае прыклады гэткіх нараканьняў, што адлюстроўваюць ня толькі дэфіцыт каханьня, але й працэс развалу сям'і.

«Сацыёлягі падлічылі: — кажа пісьменьніца, — трэць шлюбаў цяпер існуе каля году. Другая трэць — ад трох да пяцёх гадоў». У сваёй новай кнізе Алексіевіч хоча «разабрацца, што-ж адбываецца з нашым домам, з нашай сям'ёю, як адладзіць сацыяльны мэханізм яе прагрэсу». Вось, прыкладам, якія нараканьні ды адначасна й тлумачэньні праблемы падае пісьменьніца вуснамі апытаных людзей.

**Жанчыны пра мужчынаў:**

«...З мужчынам і на самой справе нешта здарылася. Паводля даных дэмаграфічнага слоўніка, яны жывуць на дзесяць гадоў менш за жанчын — нядзіўна. Я растлумачу вам гэта ня толькі як мэдык, але й як жонка: так яны плацяць за больш лёгкае жыцьцё, чым у нас, жанчын. Падлічыў-бы хтонебудзь колькі мы за тыдзень, за месяц, за жыцьцё пераносім цяжару — прадукты, бялізна... Я мыю бялізну, абіраю бульбу — муж глядзіць тэлевізар, чытае газэту...

«Дачушцы чатыры гады, а ён да гэтага часу ня ведае, як адзяваюцца дзіцячыя калготкі. Чаму я павінна гэта цярпець? Зарплата ня меншая, чым у яго, пражыву адна».

**Мужчыны пра жанчынаў:**

«Неяк няўпрыкмет адбылася падмена: жанчыне ўнушылі, што сям'я — гэта не галоўнае, а галоўнае — ейная грамадзкая асоба, яна як работнік. Вось чаму нашы дзеці дрэнна вучацца, вось чаму расьце злачыннасьць, вось чаму так шмат раўнадушша й халоднасьці ў дзіцячых сэрцах. Хто займаецца нашымі дзецьмі? Яслі, дзіцячы сад, школа... Там імі займаюцца выпадковыя людзі. А адзіная крыніца цяпла, крыніца любові — маці, яна дзецьмі ня мае часу заняцца. Ёй няма калі...

«Не, мне не падабаецца сучасная жанчына. Яна не падабаецца мне ні дома, ні на вуліцы, ні ў тэатры. Мне не хапае да́мы. А ў нас няма дамаў, якім хацелася-б падаць руку й прапусьціць наперад у аўтобусе. Яны локцямі, зубамі вырываюць, даказваюць нам, што яны жанчыны. Але гэта ўжо не жанчыны. Ня да́мы. Яны змагаюцца за сваю эмансыпацыю і перастаюць быць жанчынамі».

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| 1. Ф. Бартуль | дал. 100 |
| 2. М. Заморскі | 100 |
| 3. А. Арэшка | 100 |
| 4. В. Кажан | 100 |
| 5. К. Верабей | 50 |
| 6. М. і В. Махнач | 50 |
| 7. А. Чарнэцкая | 30 |
| 8. В. Рамук | 25 |
| 9. Э. Маркоўская | 20 |
| 10. М. Грэбень | 20 |
| 11. А. Кастэр | 20 |
| 12. А. Хвалько | 20 |
| 13. М. Дубоўскі | 20 |
| 14. М. Вайтовіч | 15 |
| 15. А. Яцэвіч | 15 |
| 16. В. і З. Кіпель | 100 |
| | Разам 785 |

*Падпіска й ахвяры праз сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| 1. В. Русак | 100 |
| 2. М. Кіпель | 50 |
| 3. Н. Кудасава | 30 |
| 4. М. Тулейка | 30 |
| 5. П. Нядзьвецкі | 25 |
| 6. В. Стома | 25 |
| 7. Г. Дубяга | 20 |
| 8. А. Сільвановіч | 20 |
| 9. П. Алекса | 20 |
| 10. С. Дубоўскі | 20 |
| 11. В. Дубяга | 20 |
| 12. П. Кулеш | 20 |
| 13. Я. Місюль | 15 |
| 14. Л. Шурак | 15 |
| 15. Л. Стагановіч | 15 |
| 16. Я. Літвіненка | 15 |
| 17. А. Непейн | 15 |
| 18. а. Карп | 15 |
| | Разам 470 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| 1. Г. Салавей | ам.дал.100 |
| 1. Р. Жук-Грышкевіч | 50 |
| | Разам 150 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | |
|---|---|
| 1. О. Качан | ам.дал. 20 |
| 2. М. Скабей | аўстр.дал. 10 |